# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

7 чэрвеня 2019 года №23 (1258)

18+


# Дзе святкаваць Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне

вуліца Віленская

**8 чэрвеня**
13.00. Выстава мастацкіх вырабаў са шкла.

Мінскі абласны краязнаўчы музей

Дзіцячая школа мастацтваў

**7 чэрвеня**
15.00. Паэтычная пляцоўка «Мой родны кут, як ты мне мілы» з удзелам беларускіх паэтаў.

**7 чэрвеня**
У канцы дня – феерверк.

Палац культуры

Цэнтральная плошча

**7 чэрвеня**
10.30, 15.00. Рэспубліканскі этап Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні.
**8 чэрвеня**
12.00. Гала-канцэрт «Маладзічок» запальвае зоркі» лаўрэатаў VIII Адкрытага конкурсу юных выканаўцаў эстраднай песні «Маладзічок – 2019».
18.00. Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр прадставіць спектакль «Янка Купала: жыццё ў свеце маланак». Рэжысёр-пастаноўшчык – Міхаіл Кавальчык.

Чым запомнілася самае першае свята песні і паэзіі ў Маладзечне яго ўдзельнікам і што яны думаюць пра сённяшні фестываль, чытайце на старонцы 20

Амфітэатр

Гарадскі парк

**7 чэрвеня**
21.30. Урачыстае адкрыццё фестывалю.
**8 чэрвеня**
21.30. Канцэрт-закрыццё XIX Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі «Маладзечна – 2019». Юбілейная канцэртная праграма «Зорны карагод» Дзяржаўнага акадэмічнага ансамбля танца Беларусі з удзелам артыстаў беларускай эстрады.

Калаж Ігара ПАЛЫНСКАГА.


**Як не згубіцца летам у лесе. Парады ад пошукава-выратавальнага атрада «Анёл»** старонка 8

**У Маладзечне даследавалі пахаванні нямецкіх салдат** старонка 20





ISSN 1991–7155





Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## У рацэ Уша купацца не рэкамендуюць

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» паведаміў доктар-гігіеніст, загадчык аддзялення камунальнай гігіены Маладзечанскага занальнага ЦГЭ **Міхаіл Міхалевіч**.

– Спецыялісты ўзялі пробы вады з ракі Уша. Даследаванні паказалі, што вада не адпавядае мікрабіялагічным паказчыкам. Таму купацца тут мы не рэкамендуем, – падсумаваў доктар.

У чатырох вадаёмах (вадаёмы санаторыя «Сасновы Бор», дома адпачынку «Алеся», пасёлка Беразінскае Гарадзілаўскага сельсавета, які замацаваны за УП «Камунальнік», і «Удранка» ў Радашкавічах), пробы вады адпавядаюць гігіенічным нормам і на купанне ў іх ёсць дазвол Маладзечанскага райвыканкама.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Зменяць расклад па некаторых прыгарадных маршрутах

ВІЛЕЙКА

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» паведамілі ў Вілейскім аўтапарку №5.

На час летніх канікулаў прыпыняць рух па рэгулярных прыгарадных маршрутах:

**Вілейка-Селішча** – па аўторках, чацвяргах і пятніцах **ад 10 чэрвеня;**

**Вілейка-Рускае Сяло-Нароча** – па панядзелках, аўторках, чацвяргах, пятніцах – **ад 24 чэрвеня**.

Як расказалі ў аўтапарку, рух па гэтых накірунках на час лета прыпыняюць не першы год. У летнія месяцы на іх амаль няма пасажыраў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Студыя «Экспромт» перамагла на міжнародным конкурсе

ВІЛЕЙКА

У канцы мая ў Мінску зладзілі II міжнародны конкурс-фестываль мастацтваў «Мая мара».

Удзельнічалі таленты з Літвы, Украіны, Беларусі, Кітая, Расіі.

Удзельнікі выступалі ў розных творчых жанрах: вакал, харэаграфія, інструментальнае выкананне, выяўленчае мастацтва.

У намінацыі «Эстрадны вакал, ансамблі 11-15 год» лаўрэатам першай ступені стала ўзорная эстрадная студыя «Экспромт» Вілейскага Палаца культуры.

Кіраўнікі – **Нэлі і Алег Зайцавы**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Адкрылі фотавыставу «Актыўнае даўгалецце. Перазагрузка»

ВАЛОЖЫН

Выставу адкрылі 5 чэрвеня ў Валожынскім раённым Доме культуры.

– Мы папрацавалі з успамінамі і зрабілі своеасаблівую фотавыставу. З дапамогай валанцёраў сабралі старыя фотаздымкі з рознымі відамі Валожына. Умова – на фотаздымку павінны быць чалавек, – расказалі арганізатары выставы.

У тых жа месцах сфатаграфавалі па магчымасці тых жа людзей, толькі ў сённяшнім Валожыне. Калі ж кагосьці ўжо няма, сфатаграфавалі нашчадкаў. Напрыклад, унука або ўнучку.

Фотаздымкі – вынікі працы творчай студыі «Гісторыя – Храм». Мерапрыемствы падрыхтавалі ў межах праекта «Папярэджанне кагнітыўных узроставых змен у сталых людзей праз далучэнне іх да творчасці». Праект фінансуецца нямецкім фондам «Памяць. Адказнасць. Будучыня» ў рамках праграмы «Месца сустрэчы: дыялог».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Выстава-кірмаш «Камарова – кола дзён» пройдзе 15 чэрвеня

МЯДЗЕЛ

Цікава правесці выхадныя, паўдзельнічаць у майстар-класах і гульнях можна ў вёсцы Камарова 15 чэрвеня. Кожны год тут праходзіць выстава-кірмаш народных рамёстваў і промыслаў «Камарова – кола дзён».

Час правядзення выставы-кірмашу з 11:30 да 17:30, забаўляльная праграма працягнецца да 24:00.

Удзел бясплатны.

**Паводле komarovo.com**

## Найлепшы стаматолаг Міншчыны працуе ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

Днямі практычны этап абласнога конкурсу дактароў-стаматолагаў ладзілі ў Стоўбцах.

Па выніках конкурсу лепшай стала доктар з Маладзечна **Вераніка Пятроўская**. У яе – першае месца. Менавіта яна прадставіць Міншчыну на рэспубліцы.

У тройцы лідараў таксама – Жодзіна і Смалявічы.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



Фота забяспечана Людмілай РАДКОЎСКАЙ.

Так выглядае адзін са знойдзеных апазнавальных жэтонаў.

# У Маладзечне даследавалі пахаванні нямецкіх салдат

**Народны саюз Германіі па доглядзе за ваеннымі пахаваннямі ў супрацоўніцтве з 52-м асобным спецыялізаваным батальёнам Мінабароны працавалі над лакалізацыяй пахаванняў нямецкіх вайскоўцаў часоў Другой сусветнай вайны. Раскопкі праводзілі на тэрыторыі Свята-Пакроўскай царквы ў Маладзечне.**

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 13 мая да 4 чэрвеня прадстаўнікі Народнага саюза Германіі і пошукавы батальён Міністэрства абароны працавалі на тэрыторыі Свята-Пакроўскай царквы каля плошчы Старое Места ў Маладзечне.

Намеснік кіраўніка Народнага саюза Германіі па доглядзе за ваеннымі пахаваннямі **Людміла Радкоўская** распавяла, што за гэты час былі знойдзеныя астанкі 145 вайскоўцаў, а само пахаванне датуецца 1944 годам. Астанкі будуць пахаваныя на нямецкіх могілках каля горада Бярозы ў Брэсцкай вобласці.

### Раскопкі правялі ўжо ў другі раз

У 2018 годзе Народны саюз атрымаў пацвярджэнне і дазвол ад Маладзечанскага райвыканкама. Царква таксама дала згоду, а мітрапаліт Маладзечанскай епархіі **Павел** даў благаславенне на пачатак работ. Праца пачалася за некалькі тыдняў да завяршэння сезона раскопак – напрыканцы кастрычніка. Лакалізацыя пахаванняў заняла два тыдні. Усяго знайшлі астанкі 91 нямецкага вайскоўца. Яны таксама былі пахаваныя каля Бярозы.

– За два гады нашы супрацоўнікі і пошукавы батальён знайшлі астанкі 236 чалавек і толькі траціну апазнавальных жэтонаў. Па жэтонах можна вызначыць асобу вайскоўца. Гэтым займаюцца ў федэральным архіве Германіі, – кажа Людміла Радкоўская.

### Чаму не эксгумуюць астанкі ваеннапалонных

Каля Гелянова ёсць пахаванне нямецкіх ваеннапалонных часоў Другой сусветнай вайны.

– Астанкі ваеннапалонных хаваем толькі ў тых выпадках, калі на месцы могілак хочуць штосьці пабудаваць ці пра гэта просяць гарадскія або раённыя ўлады з нейкай іншай нагоды, – адзначыла Людміла Радкоўская.

Усё таму, што няма адзінай канцэпцыі па могілках ваеннапалонных.

### Дзе Народны саюз Германіі бярэ інфармацыю пра пахаванні?

На тэрыторыі Беларусі пад кантролем Народнага саюза Германіі па доглядзе за ваеннымі пахаваннямі знаходзяцца больш за 300 могілак нямецкіх салдат.

Інфармацыя па пахаваннях часткова ёсць у архівах Германіі, але многія вайскоўцы падчас Другой сусветнай вайны прапалі без вестак, таму не заўсёды ёсць магчымасць шукаць толькі там. Супрацоўнікі Народнага саюза Германіі ладзяць апытанні па магчымых месцах пахаванняў нямецкіх вайскоўцаў. Некаторыя людзі самі тэлефануюць і распавядаюць, дзе могуць знаходзіцца лакацыі з магіламі салдат.

### Народны саюз працуе з пошукавым атрадам Мінабароны

52-гі асобны спецыялізаваны батальён Міністэрства абароны з'яўляецца адзінай установай, якая мае права займацца такімі відамі работ. Таму Народны саюз Германіі супрацоўнічае непасрэдна з Міністэрствам абароны.

> Асноўная задача пошукавага батальёна – эксгумацыя не нямецкіх вайскоўцаў, а савецкіх салдат.

Лакалізацыя вайсковых пахаванняў – гэта не археалагічныя работы і даследаванні. Аднак калі пры работах будуць знойдзены гісторыка-культурныя каштоўнасці і артэфакты, то яны перадаюцца ў Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

**Настасся УТКІНА.**



# Гульнявыя пляцоўкі станунь больш бяспечнымі

Фота забяспечана Аленай ЖДАНЮК.

Так выглядае інклюзіўная пляцоўка ў Валожыне, што адчынілася год таму.

**Ад 17 лістапада мінулага года ўступіў у сілу тэхнічны рэгламент «Аб бяспецы абсталявання для дзіцячых гульнявых пляцовак».**

Дакумент распаўсюджваецца на абсталяванне і пакрыццё для дзіцячых гульнявых пляцовак, размешчаных на адкрытых тэрыторыях або ў закрытых памяшканнях, якія ўпершыню выпускаюцца ў абарот у Еўразійскім эканамічным саюзе (ЕАЭС).

Цяпер патрабаванні бяспекі да абсталявання на дзіцячых гульнявых пляцоўках становяцца абавязковымі. Канструкцыя павінна забяспечваць яго трываласць і ўстойлівасць, быць абароненай ад карозіі і старэння з-за уплыву навакольнага асяроддзя.

**Абсталяванне варта выробляць так, каб яно не мела элементаў з вострымі канцамі або беражкамі і каб у ім не захрасалі часткі цела або адзенне дзіцяці.**

Гэтыя і іншыя патрабаванні бяспекі, ад выканання якіх залежаць жыццё і здароўе дзяцей, адлюстраваныя ў тэхнічным рэгламенце.

Асобна пазначана, што канструкцыя дзіцячай пляцоўкі можа быць такой, каб на яе патрапілі дзеці з інваліднасцю і маглі там бяспечна гуляць.

У тэхнічным рэгламенце патрабаванні бяспекі ўстаноўленыя зыходзячы з устаноўленай рызыкі нанясення шкоды здароўю дзяцей і тым, хто глядзіць за імі на пляцоўцы.

Перад выпускам у абарот прадукцыя, якая ўваходзіць у галіну прымянення тэхнічнага рэгламенту, павінна быць сертыфікаваная (задэклараваная) вытворцам, прадаўцом або ўпаўнаважаным вытворцам асобай у залежнасці ад віду прадукцыі.

Для планамернага пераходу ўдзельнікаў рынку на выпуск абсталявання і пакрыццяў для дзіцячых гульнявых пляцовак, якія адказваюць новым патрабаванням, устаноўлены пераходны перыяд.

Да 1 чэрвеня 2020 года дапускаюцца вытворчасць і выпуск у абарот абсталявання і пакрыццяў па ранейшых правілах – у адпаведнасці з заканадаўствам дзяржаў-членаў.

**Святлана БУЙНОВА,**
**намеснік начальніка аддзела дзяржаўнага нагляду, Маладзечна.**



**ЛІЧБА НУМАРА**

**76 888**

СТОЛЬКІ АБІТУРЫЕНТАЎ ЗАРЭГІСТРАВАЛАСЯ НА ЦТ

ПАВОДЛЕ БЕЛТА.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 30.05 | 6.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0879 | **2.0985** |
| Еўра | 2.3278 | **2.3648** |
| Злоты, 10 | 5.4142 | **5.5347** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2160 | **3.2249** |
| Грыўня, 100 | 7.8257 | **7.7829** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 30.05 | 5.06 |
| Еўра | 2.3150/2.3350 | **2.3400/2.3670** |
| Долар ЗША | 2.0780/2.0960 | **2.0880/2.1060** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | 29.05 | 5.06 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,37 | **7,37** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,50 | **14,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,30 | **1,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,35 | **1,20** |
| Агуркі, 1 кг | 1,50 | **1,20** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,80 | **5,20** |
| Бульба, 1 кг | 1,80 | **1,70** |
| Буракі, 1 кг | 2,20 | **1,80** |
| Капуста, 1 кг | 1,70 | **0,89** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,30** |
| Морква, 1 кг | 1,60 | **1,60** |
| Памідоры, 1 кг | 3,95 | **2,99** |
| Перац, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Радыс, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,60 | **1,60** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 6,90 | **5,90** |
| Бананы, 1 кг | 3,10 | **2,95** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 2,95 | **2,95** |
| Клубніцы, 1 кг | 8,50 | **4,00** |
| Лімоны, 1 кг | 4,50 | **4,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,95 | **3,80** |
| Персікі, 1 кг | 5,90 | **6,50** |
| Чарэшня, 1 кг | 14,90 | **7,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,40 | **1,40** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Пераапрануўся ў жанчыну, каб скрасці электраінструмент і каваныя ружы

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пра здарэнне ў міліцыю заявіў 61-гадовы гаспадар фірмы, якая спецыялізуецца на вытворчасці вырабаў з кованага металу.

Калі праваахоўнікі прыбылі на месца, то высветлілі, што зламыснік пранік праз дах, праз які наскрозь расце дрэва. З сабой ён знёс два шурубавёрты, два зварачныя апараты, чатыры шліфавальныя машынкі, фарбавальны пісталет, чатыры каваныя ружы з металу.

Агулам скрадзенае цягне больш чым на 2500 рублёў.

Хаця забраўся ў памяшканне зламыснік праз дах, сыходзіў з месца праз дзверы – ключы былі ў цэху. Перакінуў скрадзенае праз агароджу і збег з месца.

Падазраваным апынуўся 30-гадовы жыхар Палачанаў Маладзечанскага раёна, на яго след выйшлі па запісах камер відэаназірання. У красавіку мужчына працаваў у гэтым цэху, а месяц таму яго звольнілі. Усё на аб'екце яму было знаёмым. А каб не прапаліць справу, замаскіраваўся пад жанчыну, надзеўшы на галаву парык.

Фігуранта праваахоўнікі знайшлі па месцы жыхарства ў Палачанах. Яго затрымалі. Падазраваны прызнае віну. Па факце ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле «Крадзеж». Зламыснік рызыкуе трапіць у турму на тры гады.

Скрадзенае знайшлі. Яно было на лецішчы ў знаёмай, якой фігурант дапамагаў па гаспадарцы.

Раней падазраванага прыцягвалі да адказнасці за маёмасныя злачынствы.

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**

## Пакуль спаў п'яны, сябры дэзадарантам і запалкамі падпалілі ногі

**АСТРАВЕЦ**

29-гадоваму маладому чалавеку ў Астраўцы падпалілі ногі, калі той быў нецвярозы. У злачынстве падазраюць двух яго знаёмых, з якімі пацярпелы піў на наймалі кватэры.

Бліжэй да вечара мужчына пайшоў спаць у іншы пакой. Сабутэльнікі працягнулі выпіваць, а пасля задумалі пажартаваць з таварыша.

Спачатку аблілі ногі туалетнай вадой і чыркнулі запалкай, але нічога не загарэлася. Пасля адзін з іх узяў дэзадарант. Пры дапамозе агню аэразоль лёгка загарэўся, што нанесла мужчыну пашкоджанні.

Жартаўнікі асэнсавалі наступствы свайго ўчынку і адразу ж намазалі ногі пацярпелага маззю. Малады чалавек прачнуўся не адразу. Праз паўгадзіны выпіў яшчэ алкаголю і зноў заснуў.

Па медыцынскую дапамогу ён звярнуўся праз два дні. Спачатку мужчына сказаў, што ногі яму падпалілі невядомыя, каб не прыцягваць да адказнасці знаёмых. Але хутка праўду высветлілі.

Узбудзілі крымінальную справу па артыкуле «Наўмыснае прычыненне менш цяжкага цялеснага пашкоджання». Пацярпелых 23 і 35 гадоў раней да крымінальнай адказнасці не прыцягвалі.

**УУС Гродна.**

## На стаянцы гарэў аўтамабіль

**СМАРГОНЬ**

Аўтамабіль загарэўся 30 мая ў Смаргоні каля трох гадзін дня.

«Рэно-Эспайс» знаходзілася на стаянцы, якая не ахоўваецца. Агонь пашкодзіў кансоль і сядзенні спераду.

Верагодна, пажар здарыўся з-за няспраўнай электраправодкі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Кіроўца быў нецвярозы і без правоў

**ВІЛЕЙКА**

Падрабязнасці аварыі распавяла намеснік начальніка Вілейскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Кацярына Млечка**:

– 32-гадовы жыхар Лагойшчыны пасля адпачынку ў бары «Цэрамок» каля 0:20 30 мая нецвярозым сеў за руль аўтамабіля «Фольксваген-Джэта». Пры руху заднім ходам мужчына не разлічыў сваіх магчымасцяў і наехаў на прыпаркаваны аўтамабіль «Шкода-Актавія».

У аўтамабілі пашкоджанні нязначныя, але суп'ёзнага штрафу вінаватаму ў ДТЗ не пазбегнуць.

Высветлілася, што мужчына сеў за руль, не маючы пасведчання кіроўцы. У 2016 годзе за кіраванне ў стане алкагольнага ап'янення ён быў пазбаўлены правоў кіроўцы на тры гады. І гэты тэрмін яшчэ не скончыўся.

Як распавёў старшы інспектар ДПС АДАІ Вілейскага РАУС **Генадзь Сяськоў**, у дачыненні да вінаватага ў ДТЗ склалі чатыры пратаколы. Матэрыялы па ўказаных парушэннях і лёс правапарушальніка вырашыць Лагойскі РАУС і суд Лагойскага раёна.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота starina.ru

На таннае адзенне і абутак спакушаліся жыхары з розных абласцей Беларусі.

# Замест новых ботаў дасылала бэушныя

## Жыхарка Вілейкі падманвала людзей у «Аднакласніках»

**ВІЛЕЙКА**

**Пракуратура Вілейскага раёна перадала ў суд справу супраць 26-гадовай жыхаркі Вілейкі, якая падманвала людзей у інтэрнэце.**

Ад восені 2018 года да сёлетняга студзеня жанчына ствапала ў сацсетцы «Аднакласнікі» старонкі нібыта інтэрнэт-крам. Пакупнікам яна прапаноўвала адзенне па коштах, у разы ніжэйшых, чым у іншых крамах.

– Натуральнае норкавае футра каштавала ў інтэрнэт-краме віляйчанкі 320 рублёў, – кажа намеснік пракурора Вілейскага раёна **Андрэй Жукоўскі**.

Грамадзяне з усёй Беларусі звярталіся да фігуранткі, каб набыць добрае таннае адзенне.

Тая запэўнівала, што крама працуе выключна па перадаплаце. Калі ж людзі пералічвалі грошы, жанчына або не дасылала нічога або дасылала тое, што не адпавядае замове.

Напрыклад, замест новых ботаў – тыя, што ўжо былі ва ўжытку.

Праз пэўны час пацярпелыя пачалі звяртацца ў міліцыю. Сярод іх – жыхары Мінскай, Магілёўскай, Гродзенскай абласцей, Гродна.

Устанавілі 11 выпадкаў махлярства.

Па словах Андрэя Жукоўскага, фігурантку неаднаразова каралі за падобныя злачынствы. У 2017 годзе яна заплаціла за гэта штраф.

Пракуратура нагадвае нашым чытачам, каб карысталіся толькі надзейнымі і праверанымі інтэрнэт-крамамі і вельмі акуратна адносіліся да аплаты тавараў, набытых у іх.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Жыхара Мядзельшчыны абвінавачваюць у смяротным ДТЗ у Даўгінаве

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» расказала афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Тацццяна Беланог**.

Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці завяршыла расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да 28-гадовага жыхара Мядзельскага раёна. Мужчыну абвінавачваюць у тым, што ён кіраваў аўтамабілем у стане алкагольнага ап'янення. Гэта пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека.

Увечары 23 сакавіка абвінавачаны на сваім аўто прыехаў са знаёмымі ў Даўгінава ў кафэ. Ноччу, пасля закрыцця ўстановы, дзе ўжывалі спіртныя напоі, мужчыны накіраваліся дадому ў Мядзельскі раён.

У Даўгінаве на закругленні дарогі кіроўца выехаў на правую па ходзе руху абочыну, па якой ішлі двое мясцовых жыхароў – брат з сястрой.

– Абвінавачаны не знізіў хуткасць, хаця меў для гэтага тэхнічную магчымасць, і наехаў на 29-гадовага мужчыну, – кажа Тацццяна Беланог.

Ад атрыманых пашкоджанняў пешаход памёр на месцы здарэння.

У падследнага зафіксавана ў крыві больш за дзве праміле алкаголю. Ён віну прызнаў. Цяпер знаходзіцца пад вартай.

Крымінальную справу перадалі ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Знайшоў банкаўскую картку і патраціў грошы ў інтэрнэт-латарэі

**МАЛАДЗЕЧНА**

У міліцыю Маладзечна звярнулася 27-гадовая жанчына. Яна паведаміла, што з яе банкаўскай карткі выкралі 80 рублёў.

Аказалася, гараджанка гуляла ў цэнтры горада з двухгадовым сынам і не заўважыла, як згубіла картку. Пазней ёй сталі прыходзіць на мабільны тэлефон паведамленні аб спісанні грошай. Спачатку дваццаці рублёў, потым яшчэ шасцідзесяці.

Жанчына заблакавала картку і звярнулася па дапамогу ў міліцыю. Супрацоўнікі групы па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій высветлілі асобу падазраванага. Ім аказаўся 33-гадовы жыхар Радашкавічаў.

Мужчына растлумачыў, што ў той дзень на Цэнтральнай плошчы знайшоў банкаўскую картку. Праверыў яе баланс праз мабільны дадатак электроннай латарэі. Такім чынам залічыў на свой гульнявы рахунак 80 рублёў.

Па дадзеным факце ўзбудзілі крымінальную справу. У дзеяннях фігуранта ўгледжаны склад злачынства – крадзеж з выкарыстаннем камп'ютарнай тэхнікі.

Максімальнае пакаранне – пазбаўленне волі да пяці гадоў.

**УУС Мінаблвыканкама.**



Молодечненка Анна Сташкевич пришла на открытие магазина «Радуга» с сыном Кириллом.



Заведующая молодечненским магазином «Радуга» Наталья Дворецкая.

# Удивитесь ценам и качеству нового семейного магазина «Радуга» в Молодечно




После 21:00 на хлебобулочные изделия собственного производства магазин дарит скидку в 25%.



«Радуга» – первый магазин, расположенный на въезде в Молодечно со стороны Минска по адресу: Великий Гостинец, 144. К нему ведет удобный подъезд. Для автомобилей благоустроена большая парковка.

**В самом молодежном микрорайоне Молодечно 31 мая прошло торжественное открытие магазина «Радуга». Праздник оставил у местных жителей много приятных впечатлений с розыгрышами и сюрпризами. Но самый главный подарок для молодечненцев – уютный магазин с выгодными ценами, который так удобно расположен.**

### Посетители говорят «спасибо»

В день торжественного открытия нового магазина на площадке возле него собирались и целыми семьями, и компаниями. Детей и взрослых развлекали аниматоры в красочных костюмах, проводили розыгрыши и веселые конкурсы.

Красную ленточку перерезали заместитель директора по развитию и безопасности ООО "Торговый дом «Радуга свет» **Владимир Панасюк** и заведующая новым магазином **Наталья Дворецкая**. Наконец первые покупатели смогли войти, увидеть и оценить новенький торговый объект.

Всех, кто оплачивал не менее 20 рублей за покупки, ждал подарок. Первые покупатели выходили с полными сумками и улыбками:

– Вот бутылку шампанского подарили, приятно. Магазин очень удобный, а главное, что возле дома. Поэтому хотим сказать спасибо, что разместили его именно здесь!

Молодая мама **Марина Грищук** пришла на открытие с двухлетним сыном **Артёмом**. Пока молодечненка делилась впечатлениями от открытия, мимо один за другим проходили знакомые:

– Полгорода сейчас тут встречу, перездороваемся! Всем, кто рядом живет, очень не хватало такого места. Будем ходить за покупками с удовольствием. Впечатлил ассортимент рыбы – и по ценам, и выглядит привлекательно. Еще и шампанское вручили! А малышу шарик подарили – и счастлив.

**Вячеслав Комар** вышел из магазина с малышом. Признался, что пока не успел рассмотреть все, но очень доволен, что «Радуга» расположена так удобно.

На открытие собралось много школьников, которые после линейки были рады попасть на шоу и угоститься мороженым. Выпускница седьмого класса СШ №11 **Надя Павлович** оценила магазин, как юная хозяйка:

– Много чего есть, и причем недорого. Внутри всё так нарядно. А праздник с аниматорами веселее, чем линейка в школе.

Молодой мужчина **Александр Кулик** отметил удобное расположение, заверил, что будет следить за акциями магазина. **Наталья Лабецкая** хотя и живет не в этом микрорайоне, именно в «Радуге» закупала продукты для выпускного праздника для четвероклассников:

– Отличный магазин, обязательно буду приезжать именно сюда!

### Семейный и добрый магазин

При покупках важно не только качество продукции, но и обслуживание. Первые посетители отметили, что кассиры и продавцы работают быстро и приветливо, весь персонал готов помочь в любом вопросе.

Заведующей магазином стала Наталья Дворецкая, которая приезжает на работу из Вытроповщины. Раньше она работала в другой торговой сети. Но когда изучила преимущества «Радуги», согласилась перейти сюда:

– Хозяин сети – коренной белорус Андрей Заяц, к нему у нас полное доверие. Это надежная сеть, на рынке 15 лет, а магазин в Молодечно стал 16-м объектом. Если мы покажем хорошие продажи, в городе может появиться еще и ресторан сети. Когда стажировалась в Слуцке, была в полном восторге от предложений «Радуги» и поняла, что хочу такие же площадки у нас. Покупатель сам сравнит и поймет, насколько привлекательны наши цены, и при этом качество всегда на высоте. Собственная выпечка просто шикарна, мясные и куриные изделия выгодные и вкусные. Следите за акциями – это просто подарки. Наш магазин семейный, сюда удобно забежать молодым мамам и папам из ближних домов, комфортно заехать на машине закупиться на неделю. Зайдите и убедитесь, здесь все для покупателя!

### Пальчики оближешь!

Девиз «Радуги» – «Качество и цены как для своих». В магазине есть хлебопекарный цех, цех разделки мяса, птицы и цех мясных полуфабрикатов. Выпечка торговой сети стала главной фишкой сети, ведь именно здесь вы можете приобрести самые свежие тортики со вкусом детства по рецептуре 80-х годов – «Киевский», «Южная ночь», «Орешник», «Сказка», «Ленинградский».

Замороженное и охлажденное мясо, мясные полуфабрикаты, рыба разных видов, крупы и макароны, аппетитные овощи и фрукты, конфеты и печенье на развес. Большой выбор аккуратно упакованных орешков и сухофруктов. Молодые родители найдут детское питание, средства гигиены и самые разные игрушки – от погремушек до глобуса. Многие школьники самостоятельно покупают в магазине вкусняшки, а иногда и канцелярию – для них есть специальные стеллажи.

### Ловите выгоду!

«Радуга» всегда дарит покупателям подарки. После 21 часа всю хлебобулочную продукцию собственного производства отпускают со скидкой в 25%.

Экономные покупатели могут воспользоваться бонусной программой. Акции предлагают на различный срок – некоторые держатся до двух недель, есть большие скидки по пятницам, субботам и воскресеньям, в будние дни можно словить акцию «Шок цена».

Магазин «Радуга» приглашает жителей и гостей Молодечно за выгодными покупками в приятной обстановке ежедневно с 08:00 до 23:00. Получайте свою порцию радости от нового магазина!

ООО «Торговый дом «Радуга свет»
УНП 690250459

**Магазин «Радуга» в Молодечно**
расположен по адресу:
**Великий Гостинец, 144.**
Время работы:
**08:00-23:00.**

улица Великий Гостинец 144

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Гума летняя на дысках, новая, 4 шт. PROXES CF 2 205/55 R16. Т. (8-029) 6359630.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 1563334.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000). Тэл. (8-033)3668181.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Валожыне, 46,1 кв. м, 5 паверх. Т. (8-01772) 57861, (8-029) 9111113.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы з еўрарамонтам альбо памяняю на Мінск. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Магчымы абмен на 3-пакаёвую. Т. (8-029) 2716509.*

• 2-пакаёвая кватэра ў г.п. цукровага завода «Гарадзея» Нясвіжскага раёна. Плошча – 44,3 кв.м, 2 паверх. Т. (8-033) 3423075, (8-0176) 541355.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Скарыны, 36; 1/5 к, 2002 г.п., 49,2/27/8,9 кв. м, дзве зашклёныя лоджыі, уцепленая падлога, нацяжная столь, еўрарамонт, кухня па спецзаказе, выдатны стан. Т. (8-029) 3176269.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Чкалава, 8. Цана 70 000 рублёў + торг. Т. (8-029) 9279144.*

• 3-пакаёвая кватэра на 5 паверсе. Выдатны рамонт. Т. (8-029) 5729941.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына,16-3 альбо абмяняю на 2-пакаёвую з вашай даплатай. Т. (8-029) 8787785.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, 2 у добрым стане. Т. (8-029) 7039162.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, побач гараж з ямай і падвалам. Мэбля па жаданні. Т. (8-029) 5585482.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 3 паверх 5-павярховага дома. Гатовая да пражывання. Цана дагаворная, без пасярэднікаў. Т. (8-029) 3772077.*

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 5692836.

• Гараж у ГБК 1. Яма, склеп, абшыты вагонкай. Т. (8-029) 5729941.*

• Дача ў в. Алянец, 22 км ад Маладзечна. Участак 5,6 соткі. Дом 30 кв. м. Цана 16 тысяч рублёў + торг. Т. (8-029) 9279144.*

• Дом драўляны ў в. Замошша, дом 8, Вілейскага раёна, 6х12, 72 кв. м, участак 20 сотак, святло, калодзеж, дзве печы. Т. (8-029) 2709140.*

• Дом драўляны ў в. Старыя Баруны (Смаргонскі раён), 25 сотак. Т.(8-029) 7754975.*

• Дом у в. Дубіна Валожынскага раёна. Т. (8-029) 5554926, (8-029) 6475203 Аляксей.*

• Дом у в. Заброддзе Даўгінаўскага с/с Вілейскага раёна, гаспадарчыя пабудовы, вялікі ўчастак, зямля ва ўласнасці. Т. (8-029) 6799099, (8-029) 8788264.*

• Дом у в. Засценкі Вілейскага раёна, Іжанскі с/с. Цана дагаворная. Т. (8-033) 3513656.*

• Дом у в. Шастакі, 13 км ад Смаргоні. Нядорага. Т. (8-029) 8724272.

• Участак у в. Порса. 30 сотак. Побач газ. Т. (8-029) 1214671.*

### КУПЛЮ

• Дом або кватэру ў Мінскай вобласці. Тэл. (8-029) 1514441.*

### ЗДАМ

• Пакой у кватэры ў Маладзечне. Т. (8-029) 5019550.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Печы. Кладка. Рамонт. Дацкевіч В.Г. КА 7949758. Т. (8-044) 4771719.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, манітораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнеўпорная, пячное ліцё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

• Цэгла шамотная 0,5 р., шклаблокі 1,50 р. б/у. Т. (8-033) 3377298.

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік. Т. (8-029) 3395974.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Козачкі маладзенькія (3 мес.) ад высокаўдойных коз. Т. (8-029) 5622787.*

• Козы дойныя пародзістыя. Валожынскі раён. Т. (8-029) 6433476.*

**Іншае**

• Станок для апрацоўкі дрэва, швейную машынку з электрапрыводам. Цана дагаворная. Т. (8-01771) 20630.

• Станок кавальскі новы. Поўны камплект «Мастер-2У». Т. (8-029) 2725536.

• Электрамаслабойка новая расійскай вытворчасці. Т. (8-033) 3423075.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **ЖК-ТЭЛЕВІЗАР**, ЖК-манітор, ноўтбук, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Літаратуру на польскай або іншых заходнеславянскіх мовах. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Дэмантаж бетонных канструкцый і г.д. Т. (8-033) 3160206, (8-044) 7556706.

• Мантаж агароджаў, бетонныя работы і г.д. Т. (8-044) 7556706, (8-029) 8521268.

## Беларусь 1

**6.30** Існасць.
**6.55, 21.45** Х/ф **«КАКОЙ ОНА БЫЛА».**
**8.25** Кулинарная дипломатия.
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** Маршрут построен.
**9.50** Здоровье.
**10.40** Дача. [СТ].
**11.20, 12.10** Х/ф **«ЕГО ЛЮБОВЬ».**
**15.15** Краіна.
**15.45, 0.50** Т/с **«СВАТЫ 6».**
**16.55** Х/ф **«МАЧЕХА».**
**21.00** Панорама.
**1.45** День спорта.

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ЦЕНТРАЛЬНАЯ БОЛЬНИЦА».**
**8.35, 21.55** Телебарометр.
**8.40** Х/ф **«ТАРЗАН».**
**10.05** «Погоня за вкусом». Кулинарное трэвел-шоу.
**11.05** Кто я?
**11.25** Копейка в копейку.
**12.00** Камень, ножницы, бумага.
**12.35** «Муж напрокат». Реалити-шоу.
**13.35** «Свадебный размер». Реалити-шоу.
**14.35** Х/ф **«НАПАРНИК».**
**16.10** «Папа попал». Реалити-шоу.
**17.40** «До свидания». Реалити-шоу.
**18.25** Х/ф **«КРОЛИЧЬЯ НОРА».**
**19.55** Х/ф **«ИНФЕРНО».**
**22.00** КЕНО.
**22.05** Х/ф **«ТРАНСФОРМЕРЫ: МЕСТЬ ПАДШИХ».**

## Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».
**8.00, 15.10, 20.15** Навіны культуры.
**8.20, 20.35** «Гэты дзень».
**8.25** «Справа Румянцава». Мастацкі фільм.
**10.00** «Жывая культура». Традыцыя ткацтва паясоў (вёскі Валожынскага раёна, Мінская вобласць).
**10.30** «Беларуская кухня». Бульбяныя дзедкі.
**10.55** «Майстры і куміры». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Аляксандр Гарцуеў.
**11.50** «Снайпер 2. Тунгус». Мастацкі фільм [СТ].
**14.40** «Навукаманія».
**15.25** «Бландзінка за вуглом». Мастацкі фільм [СТ].
**16.50** «Залатыя рыбкі музыкі Станіслава Манюшкі». Прэм'ера дакументальнага фільма да 200-годдзя кампазітара.
**17.30** Святочны канцэрт, прысвечаны 200-гадоваму юбілею Станіслава Манюшкі.
**18.20** «Квартэт Гварнеры». Мастацкі фільм.
**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць — доктар медыцынскіх навук, прафесар Андрэй Ільніцкі.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Жанаты халасцяк». Мастацкі фільм.
**22.30** «Belcanto». Сольны канцэрт Анастасіі Масквіной і Аксаны Волкавай.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».
**7.10** «Играй, гармонь любимая!».
**8.00** Премьера. К 75-летию Валентина Смирнитского. «Кодекс мушкетера».
**9.10** «Вокруг смеха».
**9.40** «Теория заговора».
**10.30** «Идеальный ремонт».
**11.35** «Людмила Зыкина. «Опустела без тебя Земля…».
**12.30** Т/с **«БАБЬЕ ЛЕТО».**
**16.20** «Кто хочет стать миллионером» с Дмитрием Дибровым.
**18.00** «Сегодня вечером».
**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**21.10** Т/с **«ВОСХОЖДЕНИЕ НА ОЛИМП».**
**23.10** Х/ф **«ГРЕШНИК».**

## СТВ

**6.15** «Пища богов».
**7.50** «Анфас».
**8.10** «Самая полезная программа».
**9.00** Документальный проект.
**10.00** «Минск и минчане».
**10.35** «Центральный регион».
**11.05, 22.05** Документальный спецпроект.
**12.35, 13.40, 16.40, 20.05** Т/с **«ОБРАТНАЯ СТОРОНА ЛУНЫ».**
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**19.55** «СТВ спорт».
**0.45** Т/с **«МЕТОД».**

## Мир

**6.15** «Миллион вопросов о природе».
**6.25** «Союзники».
**6.55** «Такие разные».
**7.25** «Секретные материалы».
**7.55** «Любовь без границ».
**8.55** «Ой, мамочки!».
**9.25** «Рожденные в СССР».
**10.00, 16.00, 19.00** Новости.
**10.15** «Как в ресторане».
**10.50, 1.50** Х/ф **«ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА».**
**12.45, 16.15** Т/с **«ПЕТР ПЕРВЫЙ. ЗАВЕЩАНИЕ».**
**18.00, 19.15** Т/с **«ЗАПИСКИ ЭКСПЕДИТОРА ТАЙНОЙ КАНЦЕЛЯРИИ – 2».**
**3.25** Х/ф **«ЛЕРА».**
**5.10** «Наше кино. История большой любви».

## НТВ-Беларусь

**6.10** «Астропрогноз».
**6.20** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.50** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.
**7.20** «Подозреваются все».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by».
**8.50** «Врачебные тайны плюс».
**9.25** «Города Беларуси».
**10.25** Главная дорога.
**11.05** «Еда живая и мёртвая».
**12.00** Квартирный вопрос.
**13.05** «Поедем, поедим!».
**14.00** Т/с **«ПОБЕДИТЕЛИ».**
**16.25** «Следствие вели…».
**17.10** «Секрет на миллион». Сергей Селин.
**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.
**20.35** Х/ф **«ОТПУСК ЗА ПЕРИОД СЛУЖБЫ».**
**0.10** Х/ф **«МИРОВАЯ ЗАКУЛИСА. ПЛАТА ЗА СТРОЙНОСТЬ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** «Утро Беларуси».
**10.00** «Сто к одному».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.20** «Тайны Беларуси».
**12.30** ПАМЯТИ СТАНИСЛАВА ГОВОРУХИНА. ПРЕМИЯ «ЗОЛОТОЙ ОРЕЛ» и ПРЕМИЯ «НИКА». Иван Колесников, Светлана Ходченкова, Федор Добронравов, Борис Каморзин, Дмитрий Астрахан, Сергей Гармаш и Александр Робак в фильме «Конец прекрасной эпохи».
**14.25** Х/ф **«ОГАРЕВА, 6».**
**16.10** Х/ф **«СЧАСТЬЕ ПО ДОГОВОРУ».**
**19.45** «Плюс минус».
**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.
**20.55** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.55** Х/ф **«РОМАН С ПРОШЛЫМ».**

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 17.50** Джейн Эйр. **8.25** С вещами на вылет! **10.10** Шпион по соседству. **12.00** Рок Дог. **13.45** Невозможное. **15.55** Мошенники. **20.10** Дети шпионов 3: Игра окончена. **21.55** Голая правда. **23.45** Двойник. **1.30** Джульетта. **3.30** Александр.

### TV1000 ACTION

**7.40** Конан-варвар. **10.15** Голем. **12.40** Я, Алекс Кросс. **14.35** Солдат Джейн. **17.00** Готика. **19.00** Эквилибриум. **21.10** Город воров. **23.35** Синистер. **1.45** Анаконда. **3.20** Starперцы. **5.10** Уцелевший.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Анна Каренина. История Вронского. **9.05** Сокровища Ермака. **10.55** Любовь в городе ангелов. **12.30** Вечер накануне Ивана Купала. **13.55** Вий. **16.30** Блокбастер. **20.20** Обитаемый остров. **22.40** ЖARA. **0.35** Тёмный мир. **2.35** О чём говорят мужчины. **4.25** О чём ещё говорят мужчины.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.00, 11.00, 11.45** Т/с **«ГРИММ». 12.45, 1.00** Х/ф **«ЗАТУРА: КОСМИЧЕСКОЕ ПРИКЛЮЧЕНИЕ». 14.45** Х/ф **«КАСПЕР». 16.45** Х/ф **«СТРАШИЛЫ». 19.00** Х/ф **«АСТРАЛ». 21.00** Х/ф **«АСТРАЛ: ГЛАВА 2». 23.00** Х/ф **«ХИЖИНА В ЛЕСУ». 3.00, 3.30, 4.00, 4.30, 4.45, 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ЖАРКИЙ ЛЕД». 12.00, 13.00** Т/с **«БЛИЗНЕЦЫ». 14.00, 15.00, 6.00, 7.00** Т/с **«ЖИЗНЬ И ПРИКЛЮЧЕНИЯ МИШКИ ЯПОНЧИКА». 20.00, 21.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ. ВОЗВРАЩЕНИЕ САНДРЫ». 22.00, 23.00** Т/с **«ДЕТИ ВАНЮХИНА». 4.00, 5.00** Т/с **«ПЕЙЗАЖ С УБИЙСТВОМ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.50** Х/ф **«КРАСОТКА НА ВСЮ ГОЛОВУ». 2.30** Х/ф **«ДА ЗДРАВСТВУЕТ ФРАНЦИЯ!». 4.00** Х/ф **«МОЙ ЕДИНСТВЕННЫЙ». 6.05** Х/ф **«СПРОСИТЕ СИНДИ». 7.55** Х/ф **«СУПЕР БРИС». 9.40** Х/ф **«ХОЧЕШЬ ИЛИ НЕТ?». 11.20** Х/ф **«ОВЕЧКА ДОЛЛИ БЫЛА ЗЛАЯ И РАНО УМЕРЛА». 13.40** Х/ф **«ВОЗЬМИ МЕНЯ ШТУРМОМ». 15.45** Х/ф **«СВАДЕБНЫЙ РАЗГРОМ». 17.40** Х/ф **«ЛЮБОВНЫЙ МЕНЕДЖМЕНТ». 19.30** Х/ф **«МАСКА ЗОРРО». 22.05** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРРО».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.30, 1.30, 2.25** Инквизитор. **4.00, 4.55, 5.55, 6.55** Ялта-45. **7.45, 8.50, 9.55** Частица вселенной. **11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.05** Молодая гвардия. **17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.05, 22.00, 23.00** Неуловимые.

### ВТВ

**6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20, 4.00** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.10** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.35** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **10.00** Мультфильмы «МАШКИНЫ СТРАШИЛКИ». **10.25** Скетч-шоу «ОСТОРОЖНО: ДЕТИ!». **11.00** Х/ф **«СУПЕРКОМАНДА». 13.00** Travel-шоу «РУССО ТУРИСТО». **14.00** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **15.00** Т/с **«#СЕНЯФЕДЯ». 16.55, 18.30, 23.15** Прогноз погоды на неделю. **17.00** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **18.35** Х/ф **«ПОСЛЕ НАШЕЙ ЭРЫ». 20.30** Х/ф **«КАРАТЭ-ПАЦАН». 23.20** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ» с Михаилом Шацем. **0.20** Х/ф **«SUPERПЕРЦЫ». 2.25** «ХОЧУ ВЕРИТЬ!» с Борисом Корчевниковым. **4.25** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Футбол. Чемпионат мира. U-20. Матч за 3-е место. **8.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. ФК Минск – Неман (Гродно). **10.45** Фактор силы. **11.15** Большой спорт. **12.00** Теннис. Турнир АТР 250. Штутгарт. 1/2 финала. Прямая трансляция / Турнир WTA. Хертогенбош. Нотингем. 1/2 финала. **16.50** Волейбол. Золотая Евролига. Мужчины. Украина – Беларусь. **18.55** Тренировочный день. **19.30** Спорт-центр. **19.45** Волейбол. Золотая Евролига. Женщины. Испания – Беларусь. **21.45** Бокс. Всемирная суперсерия. Полуфиналы.

### EUROSPORT

**0.00** Теннис. «Ролан Гаррос». Обзор. **1.00** WATTS. **1.15, 4.00, 7.00** Велоспорт. «Критериум Дофине». 6-й этап. **2.30, 5.00** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. Финал. **8.00, 8.30** Суперспорт. Этап чемпионат мира. Херес. **9.00** Супербайк. Этап чемпионата мира. Херес. Вторая гонка. **9.30, 13.30** Автогонки. Ле-Ман. Квалификация. **9.55** Автогонки. Ле-Ман. Разминка. **11.00** Велоспорт. «Тур Британии». Женщины. 5-й этап. **11.30** Велоспорт. «Тур Венгрии». 3-й этап. **12.35** Автогонки. «24 часа Ле-Мана»-2018. Обзор. **15.00** Автогонки. «24 часа Ле-Мана». Превью. Том Кристенсен. **15.45, 17.10, 19.10, 21.10, 23.10** Автогонки. «24 часа Ле-Мана». Гонка. **17.00, 19.00, 21.00, 23.00** Автогонки. «24 часа Ле-Мана». Студия.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.00** Трасса А2. **6.45, 9.10, 11.50, 14.30, 17.30, 22.30, 0.40, 3.10** Итоговые новости. **7.50** Автодрайв 2019. **8.15** Тест на «Драйве». Эксклюзив. **8.40** Комплектация. Эксклюзив. **9.25** Сити-тестер. **9.55** Вечер с Пикуленко. **10.35** Сделаем как надо. **11.05, 19.40, 23.00, 3.20** Металломщики. **12.05, 20.30, 23.45** Авто Европа. **12.35, 20.55, 0.15, 4.35** Поездка выходного дня. **13.00, 13.15, 13.30, 13.45** Мото тест-драйв. **14.05, 14.45, 15.15, 15.40, 16.10, 16.35, 17.05, 17.45, 18.15, 18.45, 19.10** Мото. Вторые руки. **21.25** Народный тест драйв. **21.55, 5.30** Гараж для двоих. **22.45** Дома на колесах. **0.55, 1.25, 1.55, 2.25** От Кавказа до Аравии. **2.55** Хорошо забытое. **4.10** Автодело. **5.00** Автомобильные музеи мира.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.35, 8.25** Переделка старья. **9.15, 10.00, 10.55, 11.40** Австралийские золотоискатели. **12.30, 13.15** Австралийские охотники на лобстеров. **14.05, 14.50, 15.35** Поисковая команда в Австралии. **16.20, 17.10** Короли разрушения. **18.05, 18.25, 18.50, 19.15** Грузовые войны: Великобритания. **19.40, 20.30** Большое рыболовное состязание. **21.20** Надсмотрщик. **22.10** Тренировка по древним традициям. **23.00, 23.50** Рэй Донован. **0.45, 1.30** Уникальные дома из дерева. **2.20** Речные чудовища. **3.05, 3.55, 4.45** Выживание в лесу. **5.35** Невероятные изобретения.

### HISTORY

**6.00, 5.10, 5.55** Музейные тайны. **7.10** Невероятные изобретения. **7.40** Тайны британских замков. **7.50, 4.05** Запретная история. **8.40** Охота за сокровищами нацистов. **9.45, 11.00, 12.20, 13.25, 14.45** Поля сражений. **16.40** Падение империи. **18.05, 19.05** Коварная Земля. **20.00** 5000 лет истории Нила. **21.10** Восемь дней, которые создали Рим. **22.00** Российская империя: династия Романовых. **23.05** Истории из королевской спальни. **0.15** Лучшие убийцы древних времён. **1.10** Оружейники: искусство войны. **2.10** Могилы викингов. **3.10** Тайная война.

### NATURE

**6.00, 6.25, 6.50, 7.15, 7.40, 8.05, 8.35** Животные инстинкты с Крисом Хамфри. **9.05, 10.00, 10.55** Речные чудовища. **11.50, 12.40, 13.35, 14.30** Могучие реки. **15.25** Вулканы: разрушение и сотворение. **16.15, 17.05** Вулканическая одиссея. **17.55** Жизнь на вулкане. **18.55** Вулканы: двойное разрушение. **20.00, 2.45, 3.35** Хищные питомцы. **20.55, 21.45** Свирепые животные. **22.40** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **23.30, 0.15** Война за животных. **1.00, 1.50** Жуткие, настоящие и странные. **4.20, 5.10** Суперветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**5.55, 6.20, 5.10** Увлекательная наука. **6.40, 7.30** Панорама 360. **8.15, 12.00, 3.30** Авто-SOS. **9.00, 9.50** Короли шахт. **10.35, 11.20** Золото Юкона. **12.50, 13.35** Дикий тунец: Север против Юга. **14.15, 15.05** Расследование авиакатастроф. **15.50, 16.40** Настольная книга диктатора. **17.25, 18.15** Осушить океан: глубокое погружение. **19.00, 22.10** Очевидцы: День «Д». **19.45, 22.55** Король, обманувший Гитлера. **20.30, 20.55** Тайные истории. **21.20** Реальность или фантастика? Сезон 3. **23.40** Билли Кид: новые улики. **0.25** Взгляд изнутри: Северная Корея – династия Кимов. **1.15** Американская мафия изнутри. **2.00, 2.45** Граница**4.20** Инженерные идеи. **5.35** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.40** Какая дичь! **6.15, 22.55** Камера, мотор… рыба! **6.40, 23.55** Рецепты старого Тифлиса. **6.55, 12.05, 18.10, 0.10** Смертельный улов. **7.45, 12.55, 18.55, 1.00** Две на одного. Оружие. **8.05, 19.45** Тропа рыбака. **8.30** На рыбалку с охотой. **9.05, 15.40, 20.40, 3.15** Рыбалка сегодня XL. **9.35** Спиннинг на камских просторах. **10.05, 21.40** Рыбалка сегодня. **10.20, 21.55** Охота: собачья работа. **10.50, 22.25** Кодекс охотника. **11.05, 17.40, 1.10, 5.05** Трофеи. **11.35, 19.10, 1.40, 5.30** Водный мир. **13.10** Рождение клинка. **13.40** Спиннинг сегодня. **14.10** Рыбалка в России. **14.35, 2.20** Поплавочный практикум. **15.10, 2.50** По рекам России. **16.05, 21.10, 3.40** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **16.35, 4.05** Карпфишинг. **17.10, 4.35** Рыболовы. **20.15** Поймай и сними. **23.25** Секреты «трудных» водоемов. **2.05** Дело вкуса.

**Усадьба**

**6.00, 9.50, 13.55, 18.00, 21.45, 2.10** Дома на деревьях. **6.50, 14.40, 18.40, 22.30, 2.55** Детская мастерская. **7.05, 10.55, 14.55, 22.45, 3.10** Городские дачники. **7.35, 11.25, 15.25, 19.30, 23.15, 3.35** У мангала. **8.05, 11.50, 15.55, 19.55, 23.45, 4.00** Дачный эксклюзив. **8.35, 12.20, 16.25, 20.25, 0.15, 4.30** Домоводство. **8.50, 12.40, 16.40, 20.45, 0.30, 4.45** Дачная энциклопедия. **9.25, 13.10, 17.10, 21.15, 1.00, 5.20** Лавки чудес. **10.35** Готовим на Майорке. **13.40, 1.55** Свечной заводик. **17.40** Чай вдвоем. **19.00** Как поживаете? **1.30** Зеленая аптека. **5.45** Травовед.

## Беларусь 1

**6.30** Слово Митрополита Тадеуша Кондрусевича на День Святой Троицы.

**6.40** Слово Митрополита Павла на День Святой Троицы.

**6.50** Х/ф **«КАКОЙ ОНА БЫЛА».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Т/с **«СВАТЫ 6».**

**10.50** «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**11.35** Игры.by.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Маршрут построен.

**13.15** Х/ф **«КЕМ МЫ НЕ СТАНЕМ».**

**15.15** Твой город.

**15.30** Вокруг планеты.

**16.20** «Служить закону». Хроникально-документальный телефильм, посвященный 20-летию СОБР Республики Беларусь.

**16.50** Х/ф **«ИДЕАЛЬНЫЙ МУЖЧИНА».**

**20.40** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«МАЧЕХА».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ЦЕНТРАЛЬНАЯ БОЛЬНИЦА».**

**8.35, 19.55** Телебарометр.

**8.40** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**

**9.40** «Мир наизнанку. Япония». Трэвел-шоу.

**10.35** «ЖаннаПожени». Реалити-шоу.

**11.40** Х/ф **«ИНФЕРНО».**

**13.40** Х/ф **«ТРАНСФОРМЕРЫ: МЕСТЬ ПАДШИХ».**

**16.05, 23.35** «Орел и Решка. Рай и ад «. Трэвел-шоу.

**17.05** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.55** «Битва экстрасенсов. 17-й сезон «. Реалити-шоу.

**20.25** «Обмен женами». Реалити-шоу.

**22.00** КЕНО.

**22.05** «Третий лишний». Реалити-шоу. [СТ].

**23.00** «Сыграй меня, если сможешь».

## Беларусь 3

**7.40** «Святыні Беларусі».

**8.05, 13.15, 20.15** Навіны культуры.

**8.25, 13.35, 20.35** «Гэты дзень».

**8.30** «Жанаты халасцяк». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.30** «Беларуская кухня». Вяргенікі.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Бландзінка за вуглом». Мастацкі фільм [СТ].

**13.40** «Справа Румянцава». Мастацкі фільм.

**15.20** Святочны канцэрт да Дня медыцынскіх работнікаў. Цырымонія ўшанавання пераможцаў конкурсу «Урач года Рэспублікі Беларусь».

**17.00** «Снайпер 2. Тунгус». Мастацкі фільм [СТ].

**20.00** «Архітэктура Беларусі».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Квартэт Гварнеры». Мастацкі фільм.

**22.45** Станіслаў Манюшка. Музыка праз стагоддзі.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** Мультфильмы «Маша и Медведь».

**7.45** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**8.40** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** «Здоровье».

**10.35** Х/ф **«ИВАН ВАСИЛЬЕВИЧ МЕНЯЕТ ПРОФЕССИЮ».**

**12.25** Премьера. «Камера. Мотор. Страна».

**14.00** ОНТ представляет: «Тамара Гвердцители и Президентский оркестр Республики Беларусь». Концерт.

**15.30** «Ледниковый период. Дети». Новый сезон. Финал.

**16.20** «Ледниковый период. Дети». Новый сезон. Финал. Продолжение.

**18.25** «Лучше всех!».

**20.00** «Контуры».

**21.05** Т/с **«ВОСХОЖДЕНИЕ НА ОЛИМП».**

**23.05** ОНТ представляет: «Спортклуб»(16+).

**23.25** «Что? Где? Когда?». Летняя серия игр.

**0.35** «Видели видео?».

## СТВ

**6.20** «Пища богов».

**7.55, 20.35, 23.30** Документальный спецпроект.

**9.20** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** «День секретных проектов».

**11.25, 13.40, 16.40** Т/с **«ОБРАТНАЯ СТОРОНА ЛУНЫ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**23.00** «Неделя спорта».

**1.00** Т/с **«МЕТОД».**

## Мир

**6.00, 6.30** Мультфильмы.

**6.15** «Миллион вопросов о природе».

**6.45** «Беларусь сегодня».

**7.20** «Охота на работу». Премьера!

**7.55** «Культ/туризм».

**8.25** «Еще дешевле».

**8.55** «Всемирные игры разума».

**9.25** «Наше кино. История большой любви».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15** «Мировые леди».

**10.45, 16.15, 19.30, 2.20** Т/с **«ОТРЫВ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**20.50, 1.00** Т/с **«ПЕТР ПЕРВЫЙ. ЗАВЕЩАНИЕ».**



## НТВ-Беларусь

**6.10** «Астропрогноз».

**6.20** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.50, 22.20** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.

**7.20** «Подозреваются все».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.35** «Однажды...».

**9.15** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.05** «Чудо техники».

**11.55** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.05** Т/с **«ПОБЕДИТЕЛИ».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.05** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.15** Ты не поверишь!

**22.50** Х/ф **«БУМЕР».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«РОМАН С ПРОШЛЫМ».**

**10.30** «Смехопанорама».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сто к одному».

**12.15** «Утренняя почта».

**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**13.55** «Смеяться разрешается».

**15.15** «Далекие близкие» с Борисом Корчевниковым.

**16.20** «Выход в люди».

**17.25, 21.45** Х/ф **«НЕСЛАДКАЯ МЕСТЬ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**23.00** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.40** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.30, 18.00** Элизиум: Рай не на Земле. **8.45** Голая правда. **10.40** Джули и Джулия: Готовим счастье по рецепту. **13.00** Дети шпионов 3: Игра окончена. **14.45** Александр. **20.10** Кейт и Лео. **22.10** Комната страха. **0.20** Планетариум. **2.25** Герцогиня. **4.25** Руки-ноги за любовь.

### TV1000 ACTION

**7.35** Город воров. **10.15** Эквилибриум. **12.20** Анаконда. **14.10** «V» значит Вендетта. **16.45** Уцелевший. **19.10** Голодный кролик атакует. **21.10** Отряд особого назначения. **23.15** Ирландец. **1.25** Удача Логана. **3.25** Смертельная гонка. **5.10** Киллеры.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Обитаемый остров. **8.45** ЖARA. **10.40** Тёмный мир. **12.45** Тени забытых предков. **14.40** Свадьба. **16.50** Снежная королева 3. Огонь и лёд. **18.40** М+Ж. **20.20** Обитаемый остров: Схватка. **22.25** Сволочи. **0.25** Невеста любой ценой. **2.25** Ивановы. **4.15** Сокровища О.К.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.30, 11.30, 12.15** Т/с **«ГРИММ».** **13.15** Х/ф **«ВРАТА».** **15.00** Х/ф **«АСТРАЛ».** **17.00** Х/ф **«АСТРАЛ: ГЛАВА 2».** **19.00** Х/ф **«АСТРАЛ: ГЛАВА 3».** **21.00** Х/ф **«АСТРАЛ: ПОСЛЕДНИЙ КЛЮЧ».** **23.00** Х/ф **«СТРАШИЛЫ».** **1.15** Х/ф **«КАСПЕР».** **3.15, 3.45, 4.00, 4.30, 5.00, 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ».** **10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ЖАРКИЙ ЛЕД».** **12.00, 13.00** Т/с **«БЛИЗНЕЦЫ».** **14.00, 15.00** Т/с **«ВЫСОТА 89».** **20.00, 21.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ. ВОЗВРАЩЕНИЕ САНДРЫ».** **22.00, 23.00** Т/с **«ДЕТИ ВАНЮХИНА».** **4.00, 5.00** Т/с **«ПЕЙЗАЖ С УБИЙСТВОМ».** **6.00, 7.00** Т/с **«ЖИЗНЬ И ПРИКЛЮЧЕНИЯ МИШКИ ЯПОНЧИКА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.30** Х/ф **«ОТПЕТЫЙ МАЧО».** **2.35** Х/ф **«СЕКС НА ДВЕ НОЧИ».** **4.30** Х/ф **«ЕСЛИ БЫ Я БЫЛА МУЖЧИНОЙ».** **6.25** Х/ф **«СВАДЕБНЫЙ РАЗГРОМ».** **8.15** Х/ф **«ПЕНЕЛОПА».** **10.15** Х/ф **«ВУЛКАН СТРАСТЕЙ».** **12.00** Х/ф **«ТАКСИ 5».** **13.55** Х/ф **«ДАЮ ГОД».** **15.50** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».** **17.50** Х/ф **«ГОРЬКО В МЕКСИКЕ».** **19.30** Х/ф **«ГОРЬКО».** **21.25** Х/ф **«ГОРЬКО! 2».** **23.15** Х/ф **«ЖЕНИХ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00** Неуловимые. **1.00, 2.05, 3.05, 4.00** Маммон. **4.50, 5.50, 6.55, 7.55, 8.55, 10.00** Частица вселенной. **11.00, 11.55, 12.55, 13.55, 14.55, 16.00** Молодая гвардия. **17.00, 18.05, 19.05, 20.05, 21.00, 22.00, 23.00** Чужая дочь.

### ВТВ

**6.00, 6.55, 8.15, 9.05, 10.35, 12.15, 12.55, 13.55, 15.55, 19.15, 23.10, 23.50** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20, 3.45** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.10** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.35** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **10.00** Скетч-шоу «ОСТОРОЖНО: ДЕТИ!». **10.40** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **11.20** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.20, 2.25** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **13.00, 2.55** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **14.00** Т/с **«#СЕНЯФЕДЯ».** **16.00** Х/ф **«МОНСТРЫ НА КАНИКУЛАХ».** **17.35** Х/ф **«МОНСТРЫ НА КАНИКУЛАХ 2».** **19.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **20.50** Приключения «ПРОГУЛКА». **23.15** Реалити-шоу «ПАРЫ НА КАНАРЫ». **23.55** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **0.50** «ХОЧУ ВЕРИТЬ!» с Борисом Корчевниковым. **4.35** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.35** Волейбол. Золотая Евролига. Женщины. Испания – Беларусь. **8.30** Футбол. Чемпионат мира. U-20. Финал. **10.25** Волейбол. Золотая Евролига. Мужчины. Украина – Беларусь. **12.30** Пит-стоп. **13.00** Турнир WTA. Хертогенбош. Финал. **15.00** Бокс. Всемирная суперсерия. Полуфиналы. **16.50** Спорт-центр. **18.50** Гандбол. Квалификация к ЧЕ-2020. Мужчины. Беларусь – Финляндия. В перерыве – Спорт-центр. **20.30** Игры «на вырост». **21.00** Легкая атлетика. Бриллиантовая лига. Рабат. **23.00** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **23.45** Итоги недели.

### EUROSPORT

**1.00, 10.00, 11.00, 13.00, 15.00** Автогонки. «24 часа Ле-Мана». Студия. **1.10, 4.00, 10.10, 11.10, 13.10, 15.10** Автогонки. «24 часа Ле-Мана». Гонка. **16.45, 19.50, 22.00** Велоспорт. «Критериум Дофине». 8-й этап. **18.20, 21.15** Велоспорт. «Тур Венгрии». 5-й этап. **19.15** WATTS. **20.45** Велоспорт. «Тур Британии». Женщины. 6-й этап. **23.00** Автогонки. «24 часа Ле-Мана». Обзор.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 6.45, 17.15, 18.00** Трасса А2. **7.35, 10.20, 13.10, 15.45, 19.20, 23.50, 1.35, 3.35** Итоговые новости. **7.50** Сделаем как надо. **8.15, 2.20** Наезд! **8.25, 8.55, 9.20** Возвращение легенды. **9.50** Кастомайзинг по-русски. **10.35** Тест на «Драйве». Эксклюзив. **11.00, 1.50** Испытание на прочность. Эксклюзив. **11.30, 19.35, 22.35** Металломщики. **12.15, 20.25, 23.20, 3.50** Авто Европа. **12.45, 20.50, 0.00, 4.20** Поездка выходного дня. **13.25** Хорошо забытое. **13.40, 14.15, 14.45, 15.15** От Кавказа до Аравии. **16.00, 21.20, 4.45** Народный тест драйв. **16.25, 21.50, 5.10** Гараж для двоих. **17.00** Дома на колесах. **18.50** Автодрайв 2019. **22.20** Самообслуживание. **0.30, 5.40** Вторичка. **0.45** Все включено. Эксклюзив. **0.55** Вечер с Пикуленко. **2.25** 9 злобных водителей. **2.55** Советы юриста.

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.35, 8.20, 9.15, 10.00, 10.55, 11.40, 12.35, 13.20, 14.10, 15.00, 15.35, 16.20, 17.05, 18.00, 18.50** Переделка старья. **19.40, 20.30** Надсмотрщик. **21.15, 22.05** Австралийские золотоискатели. **22.50, 23.15, 23.45, 0.10, 0.40, 1.05** Зов Севера. **1.35, 2.25** Короли разрушения. **3.20, 4.10** Строительство гигантов. **5.00, 5.30** Полигон.

### HISTORY

**7.20** Американские принцессы на миллион долларов. **8.20, 9.15** Коварная Земля. **10.15** Родовые проклятья. **10.50, 11.45** Заговор. **12.40, 13.45, 14.45** Невидимые города Италии. **15.50** Смертоносный интеллект. **16.45** Преступность военного времени. **17.40** Мир Гитлера: послевоенные планы. **18.40** Проект «Наци». Дьявольский замысел. **19.45** Вторая мировая в цвете. **20.55** Тайны египетских пирамид. **22.00** 5000 лет истории Нила. **22.45** Загадки Египта. **23.55** Лучшие убийцы древних времён. **0.45** Оружейники: искусство войны. **1.40** Тайная война. **2.45** Могилы викингов. **3.35** Запретная история. **4.35, 5.25** Музейные тайны.

### NATURE

**6.00, 6.25, 6.50, 7.15, 7.40, 8.05, 8.30** Соединенные Штаты Животных. **8.55, 20.10** Эпический Йеллоустоун. **9.40, 22.50** Жизнь на вулкане. **10.45, 23.55** Вулканы: двойное разрушение. **11.50** Чудесные сироты. **12.55, 13.50, 14.45** Спасение Сирги. **15.40** Встречи старых друзей. **16.30, 17.25, 18.20** Жизнь: первые шаги. **19.15** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **20.55** Царство муссонов. **21.50** Дикая Бразилия. **1.00** Вулканы: разрушение и сотворение. **1.45, 2.35** Жуткие, настоящие и странные. **3.25** Хищные питомцы. **4.15, 5.05** Суперветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.10** Увлекательная наука. **6.25, 7.15** Панорама 360. **8.05, 11.55** Авто-SOS. **8.55, 9.40** Короли шахт. **10.25, 11.10, 1.15, 2.00** Инстинкт выживания. **12.45, 13.30** Дикий тунец. **14.20, 15.05** Международный аэропорт Дубай. **15.55** Денежное хранилище США. **16.40** Дневник Анны Франк Послесловие. **17.25** Фашистский лагерь смерти: Большой побег. **18.15, 22.50** Мафия. **19.00, 22.05** По их собственным словам. **19.45, 20.30, 21.15** Египет с величайшим исследователем в мире. **23.35, 0.25** Неизвестная планета земля. **2.45, 3.30** Расследование авиакатастроф. **4.20** Инженерные идеи. **5.35** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.50** Рождение клинка. **6.25, 23.20** Спиннинг сегодня. **6.55, 12.05, 18.10, 0.20** Смертельный улов. **7.45, 12.50, 18.55, 1.05** Две на одного. Оружие. **8.00, 19.45** Поплавочный практикум. **8.35** По рекам России. **9.05, 15.40, 20.45, 3.20** Рыбалка сегодня XL. **9.35, 16.10, 21.15, 3.45** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **10.05, 21.45** Карпфишинг. **10.35, 22.15** Рыболовы. **11.05, 17.40, 1.20, 5.05** Трофеи. **11.35, 19.15, 1.45, 5.35** Подводная жизнь дельты Волги. **13.10** Какая дичь! **13.25** Камера, мотор... рыба! **13.55** Секреты «трудных» водоемов. **14.25** Рецепты старого Тифлиса. **14.40, 2.25** Тропа рыбака. **15.10** На рыбалку с охотой. **16.40, 4.10** Рыбалка сегодня. **16.55, 4.25** Охота: собачья работа. **17.25, 4.55** Кодекс охотника. **20.15** На охотничьей тропе с Сергеем Астаховым. **23.50** Рыбалка в России. **2.10** Дело вкуса. **2.50** Поймай и сними.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.50, 13.55, 18.00, 21.45, 2.10** Дома на деревьях. **6.50, 10.35, 14.40, 18.40, 22.30, 2.55** Детская мастерская. **7.05, 10.55, 22.45** Городские дачники. **7.35, 11.25, 15.25, 19.30, 23.15, 3.35** У мангала. **8.05, 11.50, 15.55, 20.00, 23.45, 4.00** Дачный эксклюзив. **8.35, 12.20, 16.25, 20.30, 0.15, 4.30** Домоводство. **8.50, 12.40, 16.40, 20.45, 0.35, 4.45** Дачная энциклопедия. **9.25, 13.10, 17.10, 21.15, 1.05, 5.20** Лавки чудес. **13.40, 17.40, 1.55** Чай вдвоем. **14.55, 19.00, 3.10** Как поживаете? **1.30** Зеленая аптека. **5.45** Траввед.


Сольскі касцёл.



Фота забяспечанае Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.



Знакі вышыні M.R.P. і P.N.




Помнік у Дзясятніках.

# Знакі вышыні – каштоўныя геадэзічныя маркеры

**СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ**

*Працяг.
Пачатак у №22.*

## Верагодна, многія знакі не захаваліся

З публікацыі «У справе нівелірных знакаў», змешчанай у «Ведамасцях Віленскай архідыяцэзіі» ад 25 сакавіка 1929 года, стаў вядомы час пачатку работ па ўмацаванні знакаў. Канцлер курыі, ксёндз Савіцкі, даводзіў інфармацыю да пробашчаў касцёлаў Віленшчыны, што Міністэрства грамадскіх работ па меры правядзення нівелірных прац будзе падаваць да ведама спісы касцёлаў і касцельных будынкаў, на мурах якіх будуць убудаваныя рэперы.

Давалі таксама супакаяльнае тлумачэнне аб тым, што каля рэпераў не будуць знаходзіцца ніякія надпісы і таблічкі. А так як знакі маюць невялікія памеры, то яны не стануць прычынай знявечання і пашкоджання сценаў ці цокаляў муроў хрысціянскіх святыняў.

**Цалкам верагодна, што аналагічныя рэперы знаходзіліся на іншых рэгіянальных помніках дойлідства, але складаныя часы ў лёсе рэлігійных святыняў і пазнейшае аднаўленне іх не захавалі да нашых дзён на мурах храмаў даўнейшыя польскія знакі.**

Разам з тым, на падмурках касцёлаў у Астраўцы, Барунах, Вілейцы, Вішневе, Жодзішках, Жупранах, Ашмянскай царкве і, напэўна, у іншых мясцінах можна заўважыць геадэзічныя кантрольныя пункты з савецкага мінулага, якія таксама з'яўляюцца каштоўнымі гістарычнымі памяткамі.

## 42 рэперы ад Маладзечна да Літвы

Пасля ліквідацыі Міністэрства грамадскіх работ ад 1 ліпеня 1932 года ўсе працы па нівеліраванні прадоўжыла Міністэрства камунікацый. У гэтым і наступным годзе правялі прэцызійнае ці высокадакладнае нівеліраванне па чыгуначнай лініі Новая Вілейка – Маладзечна. Для вымярэння гэтай лініі нівелірнай сеткі выкарыстоўвалі «цэйсаўскія» інструменты, кожны прамежак паміж двума рэперамі вымяралі як у адзін, так і другі бок. Пры магчымасці, вымярэнні праводзілі ў розныя дні і розны час дня.

Рэперы ўмацоўвалі на апорах чыгуначных мастоў і віадукаў, падмурках будак чыгуначных аглядчыкаў, сценах вакзальных памяшканняў і іншых мураваных станцыйных будынкаў.

**На ўчастку чыгункі ад сучаснай Дзяржаўнай мяжы з Літвой да Маладзечна заклалі 42 рэперы: 33 сценныя рэперы ў выглядзе балта, 8 таблічкавых рэпераў і адзін нівеліцыйны камень з клёпкай і падземным балтом.**

Для нас цікавым з'яўляецца той факт, што балтавы рэпер захаваў сваю ранейшую форму і выгляд, акрамя адной змены. Замест надпісу «M.R.P.» ужылі надпіс «P.N.», што ў перакладзе расшыфроўваецца як «прэцызійнае нівеліраванне».

**Пазнаёміцца з такімі знакамі можна на некалькіх чыгуначных мастах, на падмурках вакзальных будынкаў станцыі Ашмяны і Пруды, на воданапорнай вежы станцыі Залессе.**

Апошні пункт пашчасціла адшукаць з трэцяй спробы, бо ён быў часткова схаваны зямлёй і таму знаходзіўся не на звыклым месцы.

**Уладзімір ПРЫХАЧ,
Смаргонь.**

*Заканчэнне будзе.*

● КАЛЯНДАР

7 ЧЭРВЕНЯ

**1825.** Нарадзіўся **Эдвард Паўловіч**, мемуарыст, мастак, асветнік, удзельнік паўстання 1863-1864 гг. У 1853–56 падарожнічаў па Заходняй Еўропе. Вынік яго паездак – брашура «Колькі слоў літвіна» (Парыж, 1857), у якой адстойваў права беларускіх сялян на асвету.

**1880.** Нарадзіўся **Вацлаў Іваноўскі** (маёнтак Лябёдка, цяпер Шчучынскі раён), грамадска-палітычны дзеяч, адзін са стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай Грамады, асветнік, выдавец, міністр асветы ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі, бурмістр Мінска (1941-1943 гг.). 6 снежня 1943 ён быў цяжка паранены невядомымі на вуліцы, прывезены ў шпіталь, але там пакінуты без дапамогі і назаўтра памёр.

**1976.** Памёр **Міхась Машара**, беларускі паэт, празаік, драматург, перакладчык, удзельнік заходнебеларускага нацыянальнага руху. Нарадзіўся ў 1902 годзе

10 ЧЭРВЕНЯ

**1812.** У Полацку адкрытая езуіцкая акадэмія – першая вышэйшая навучальная ўстанова на тэрыторыі сучаснай Беларусі (дзейнічала да 1820 г.).

**1883.** Нарадзіўся **Язэп Гапановіч** (мястэчка Будслаў), нацыянальны дзеяч, прадпрымальнік. Быў уласнікам цагельні. Дапамагаў незаможным беларускім студэнтам.

11 ЧЭРВЕНЯ

**1982.** Памёр **Рыгор Семашкевіч**, паэт, празаік, літаратуразнаўца, крытык. Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску. Нарадзіўся 12 верасня 1945 года ў Дамашах, што на Маладзечаншчыне.

12 ЧЭРВЕНЯ

**1895.** Нарадзіўся **Леапольд Родзевіч** (фальв. Кур'янаўшчына Вілейскага павета, цяпер Лагойскі раён), палітычны і грамадскі дзеяч, драматург, публіцыст, паэт. У 1909 скончыў гарадское вучылішча ў Вілейцы. Загінуў пасля 1938 у савецкім канцлагеры.

13 ЧЭРВЕНЯ

**1834.** Нарадзіўся **Канстанцін Вераніцын**, літаратар, верагодны аўтар паэмы «Тарас на Парнасе». Памёр у Санкт-Пецярбургу (1904? г.).

**1943.** У в. Васілішкі (цяпер Шчучынскі рён) польскімі падпольшчыкамі забіты **Юльян Саковіч**, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, актывіст Таварыства беларускай школы і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, Беларускай народнай самапомачы, сябар ЦК Беларускай незалежніцкай партыі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

У сучасным свеце мы перанасычаныя лішняй інфармацыяй. Часам, каб знайсці добрую кнігу ці фільм, мы губляем не адзін вечар. Таму вырашылі рабіць падборкі самых вартых твораў мастацтва, каб нашы чытачы маглі знайсці ў іх падказкі.

Гэта могуць быць кнігі, фільмы, серыялы, музыка ці карціны. Важна, каб гэта былі сапраўды вартыя ўвагі творы. Каб вы, вярнуўшыся з работы дамоў, ведалі, як з карысцю можна бавіць вечар.

# Таршэр

Героямі рубрыкі мы запрашаем нашых чытачоў і герояў публікацый. Яны выбіраюць свой спіс і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вечарах з таршэрам будзе больш твораў, на якія трэба звярнуць увагу.

# «Кожнаму жыццёва неабходна вучыцца крытычнаму мысленню»

**Герой трэцяга выпуску рубрыкі «Таршэр» – маладзечанка Марыя Шэбанец.**



Фота забяспечана Марыяй ШЭБАНЕЦ

Марыя Шэбанец.

Машы 30 гадоў, выхоўвае траіх дзяцей. Працуе менеджарам па продажах, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Яна падзялілася сваім спісам самых любімых твораў мастацтва.

### Кнігі

Чытаць вельмі люблю, але апошнім часам усё цяжэй прымаць нешта новае. Мне дарагі казачны сусвет улюбёных кніжак, і заўсёды страшна яго парушыць. Даходзіць да таго, што трэба наўмысна прымаць удзел у флэшмобах ці пасяджэннях кніжнага клуба, каб прымусіць сябе пераадолець жах і ўзяцца за незнаёмы твор. Таму і прымаю, дарэчы. Але мой ліст для перачытвання застаецца нязменным.

Адной кніжкі неверагодна мала, таму паспрабую згадаць серыі, што вяртаюць у чароўны сусвет шматразова, ці аўтараў, якіх проста чытаю запоем. Не буду казаць пра Гары Потэра і Алісу ў Краіне цудаў і Залюстаркоўі, пра іх усе ведаюць. Бачыце якая я хітрая, дадала дзве серыі да ліста, а ніхто і не заўважыў. Змаўчу і пра Толкіна, Брэдберы, Эдгара По, Лук'яненка ды Пехава (ну, вы зразумелі). Раскажу пра менш моднае, але дарагое мне.

**1. Макс Фрай. «Лабірынты Еха». «Хронікі Еха». «Сны Еха».** Гэта мая апошняя знаходка. Фэнтэзі, дэтэктыў і псіхалагічная прытча адначасова. Лёгкая мова, грубаватыя, але часамі проста шыкоўны гумар, бясконцыя цуды і прыгоды, цудоўная гаворка мясцовых жыхароў... Тут я знайшла сабе і сяброў, і настаўнікаў, і чарговае кніжнае каханне (адпраўляю паветраны пацалунак сэру Шурфу Лонлі-Локлі). Тут жыла ў цяжкія часы змроку. Дзякуй табе, сэр Макс!

**2. Роджэр Жэлязны. «Хронікі Амбера».** А гэта адно з першых «ну ні халеры ж сабе!» дзяцінства. Фэнтэзі. Прыгоды, інтрыгі і чараўніцтва. Сусвет проста выносіць мазгі. Амбер і Хаос, Адлюстраванні, Лабірынт! Падарожжы па Адлюстраваннях! Колькі разоў я намагалася авалодаць імі – і кожны раз разумела, што няма ўва мне каралеўскай крыві Амбера. Ці, можа, я яшчэ проста не прайшла свайго Лабірынту? А што калі...

**3. Клайв Стэйплз Льюіс. «Пакуль мы твараў не здабылі», «Лісты Круцяля», «Касмічная трылогія», вядомы ўсім «Хронікі Нарніі»**, а таксама багаслоўскія працы – гэта ўжо больш спецыфічна, для тых, хто цікавіцца рэлігіязнаўствам ці вызнае хрысціянства. Разумнік Льюіс! Кожны раз не магу змаўчаць і ласкава прагаворваю гэтыя словы. Гэта безмерна сумленны чалавек, і за яго ходам думак сачыць вельмі соладка. Асабліва раю пераказаны міф пра Амура і Псіхею («Пакуль мы...») – гэта вельмі моцная ў псіхалагічным плане рэч. Балюча, што такая малавядомая.

**4. Аляксандр Панчын («Сума біятэхналогіі», «Ахова ад цёмных мастацтваў»), Станіслаў Драбышэўскі («Байкі з грота»), Аляксандр Сакалоў («Навукоўцы ўтойваюць?», «Міфы пра эвалюцыю»), Аляксей Вадавозаў («Пацыент разумны»), Ася Казанцава («У інтэрнэце нехта памыляецца!»).** Дарогу папулярызатарам навукі! Яны шыкоўныя! Яны такія разумнічкі і няшчачкі! Кожнаму сёння жыццёва неабходна вучыцца крытычнаму мысленню і берагчы сябе. Вы ж ведаеце, што гамеапатыя – гэта проста вельмі дарагі цукар? А што хімія – гэта не нешта жудаснае, а ўсё навокал? Што эвалюцыйных звёнаў не проста хапае, а ўжо няма куды піхаць? А як ваш мозг вас падманвае? Тут толькі некалькі сучасных аўтараў і кніжак – насамрэч, іх шмат больш. А калі чытаць няма часу, ёсць цудоўныя лекцыі на Ютубе, з гумарам і ад душы, вельмі раю!

**5. Надзея Ясмінска («Пацеркі і кроплі», «Дом цікаўных казак»), Аляксей Шэін («Сем камянёў»).** На мой сорам, беларускіх аўтараў я чытаю мала. Але сучасных маладых майстроў псіхалагічнай казкі і дзіцячага/падлеткавага фэнтэзі, канешне, не прамінула. Імі можна ганарыцца! Ну, і не забываюся пра земляка **Уладзіміра Садоўскага** – у яго выдатныя фантастычныя апавяданні, нечаканая навэла «1813» пра Агінскага, які калашмаціць замбакоў, і нешта яшчэ вельмі цікавенькае ў працэсе (паціраю лапкі).

### Фільмы

З фільмамі ўсё больш складана. З аднаго боку, у фільма больш шляхоў уздзеяння і праз гэта больш шанцаў зачапіць надоўга. З іншага боку, гэты від мастацтва настолькі складаны, што амаль немагчыма наблізіцца да дасканаласці так, як гэта робяць шматлікія кнігі. Таму я рэдка гляджу кіно: шкадую часу і абыходжуся аглядамі ад Nostalgia Critic, Бэдкамедыяна, Ikotika ці хто там яшчэ пад гарачую руку на Ютубе падвернецца. Праўду кажучы, тыя агляды бываюць больш яскравымі за большасць сучасных фільмаў. Але ёсць і ў мяне некалькі кіношных фаварытаў.

**1. Крыстафер Нолан. «Пачатак» (Inception).** Сны – маё слабае месца. А тут магчымасць іх будаваць, напружаны сюжэт, дахазносная карцінка, а саўндтрэк, а сон у сне ў сне! Ох, сябры, я пайшла пераглядаць. У мільённы раз.

**2. Пітэр Джэксан. «Уладар пярсцёнкаў», трылогія.** Гэта сама дасканаласць. Кіно, якое робіць шчаслівым і вока, і вуха, і сэрца. Цытую іншую цудоўную серыю, пра якую нагадваць не буду (ну, вось зусім не буду, праўдапраўда): «Пасля ўсяго гэтага часу? – Заўсёды!»

**3. Хаяо Міядзакі «Знесеныя прывідамі».** Анімэ. Яшчэ адзін неверагодны сусвет. Каляровы, нечаканы, прыгожы! І гісторыя маленькай дзяўчынкі, якая мае нахабнасць змагацца. Іншыя мульцікі Міядзакі таксама заслугоўваюць увагі.

**4. Мультыплікацыйны серыял «Рык і Морці» (18+).** Яскравы, жорсткі, неверагодна смешны. Ідэальны адпачынак, не магу дачакацца новага сезона. Фантастыка, навука, злосны дарослы гумар, непрадказальны сюжэт. Цалкам зарабіў сваю папулярнасць. Выйдзі ў горад, крыкні «Агурочак Рык!» – і дзясяткі мінакоў адкажуць табе тым жа.

**5. Серыял «Шэрлак».** Не ўсё з ім добра, але вынаходкі апаратараў проста неверагодныя. Перанесці персанажа ў наш час, зрабіць яго маладзейшым і аддаць ролю Камбербэтчу – геніяльна. Ну, а з сюжэтам там усялякае бывае, ад шэдэўраў да адпісак. Але хоць разок зірнуць ёсць сэнс.

Увогуле, мне вельмі падабаецца, што ў наш час тэма серыялаў развіваецца так хутка. Цалкам згодная са словамі забылася каго (выбачай, браце), што найлепшы шлях экранізаваць кнігу – зняць высокабюджэтны міні-серыял. Такі, як «Гульня тронаў» – не глядзела, бо я з тых, каго прапаноўваюць прыбраць ад экрана перад жорсткімі кадрамі. Даўжыня серыяла дазваляе нічога не выразаць з аўтарскага тэксту, расказваць пра ўсё павольна і са смакам. А калі ёсць грошы, гэта можа выглядаць проста неверагодна. Шчыра веру, што эра такіх серыялаў вось-вось надыдзе. І тады я буду самым шчаслівым кнігасерыяламанам на свеце. •



Старыя аўтапакрышкі выкарыстоўваюць як атракцыёны, кветачніцы, упрыгажэнні двара. Гэтыя шыны стаяць па вуліцы Міру.

# Ці сапраўды шкодна выкарыстоўваць старыя аўтапакрышкі

**По дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі, на канец мінулага года ў Мінскай вобласці на 1000 чалавек прыходзілася 342 аўтамабілі, у Гродзенскай – 363. А колаў у кожнай машыны не менш за чатыры. Дзіцячыя атракцыёны, упрыгажэнні, клумбы… Чаго толькі не робяць са старых аўтапакрышак. Мы вырашылі разабрацца, ці варта выкарыстоўваць шыны, якія ўжо адслужылі сваё.**

МАЛАДЗЕЧНА

– Шыны – другасны матэрыяльны рэсурс, адносяцца да трэцяга класа небяспекі. Але людзі ставяць старыя пакрышкі на дзіцячыя пляцоўкі, робяць упрыгажэнні. Калі яны будуць доўга ляжаць у зямлі, нічога добрага не будзе. Нельга, каб гума ляжала на звалках, бо звалка можа загарэцца, будзе нанесеная вялікая шкода наваколлю. Вядома, летам сонца моцна награвае пакрышкі, ёсць выпарэнні. Калі ўжо чалавек ставіць гуму ў двары, то лепш яе пафарбаваць – выпарэнняў менш, – кажа галоўны спецыяліст Маладзечанскай раённай інспекцыі Мінскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Сяргей Танана**. – З адходамі адна задача – максімальны збор і здача на другасную перапрацоўку.

Другасныя матэрыяльныя рэсурсы – адходы, якія пасля збору могуць выкарыстоўвацца ў якасці другаснай сыравіны, для гэтага ў Беларусі ёсць аб'екты па выкарыстанні адходаў, паведамляецца ў Законе па абыходжанні з адходамі.

Дырэктар Цэнтра экалагічных рашэнняў, кіраўнік праграмы па хімічных рэчывах і адходах **Яўген Лабанаў** мяркуе, калі выкарыстоўванне гумы ў якасці ўпрыгажэнняў і атракцыёнаў не носіць масавы характар, гуму не спальваюць – вялікай праблемы няма.

> **– Зразумела, аўтапакрышкі не прызначаны для выкарыстання ў якасці атракцыёнаў ці лавак. Але калі няма магчымасці зрабіць іншае, у адзінкавых выпадках гэта можна рабіць. Напрыклад, гэтыя ж пакрышкі здрабняюць і з крошкі робяць пакрыццё для дзіцячых пляцовак.**

У рэгіёне ёсць месцы, дзе можна здаць старыя аўтапакрышкі.

**Што думаюць жыхары Маладзечна і раёна**

**Аляксей Васільеў:** – Даволі складана сказаць адназначна. Успамінаючы дзяцінства, пакрышкі для нас былі добрай забавай. Так што мой голас «за». У мяне на радзіме пакрышкі стаяць гадоў 20. Не адзін дзясятак пакаленняў вырас на іх. Здаецца, не так гэта і страшна.

**Вераніка Буслаўская:** – Лічу, што гэта бяспечна. З аўтапакрышак можна зрабіць розныя атракцыёны ад простай пясочніцы да якіх-небудзь прыгожых фігур.

**Аляксандр Казакевіч:** – У мяне на дачы колы ўкапаныя ў зямлю, дзеці там вогнішча паляць, скачуць па іх. Два кругі там такіх. На стадыёне ля 11 школы таксама ёсць, выкарыстоўваюцца як паласа перашкод. Прынамсі, я ў дзяцінстве па колах пастаянна скакаў. Думаю, яны больш бяспечныя, чым усякія металічныя арэлі і турнікі. Выпарэнні ад гумы будуць у любым выпадку, укапаная яна дзесьці на вуліцы ці стаіць на машыне. Калі іх пужацца, трэба пераходзіць на драўляныя колы. Заводы больш экалогію забруджваюць, чым шыны, аднак з-за гэтага ніхто іх не закрывае.

**Кірыл Куніцкі:** – Я супраць, гэта адходы. Я проста працую ў Еўропе, тут такога ўвогуле няма. Усё б/у ці выкідваюць, ці прадаюць у СНД. А ў нас усё грабуць.

**Юры Марзак:** – Мяркуючы па тым, як іх выкарыстоўваюць у ЗША, робяць усякія арэлі і падобнае, думаю, што ідэя мае права на жыццё. Усё будзе ўжо залежаць ад рэалізацыі. Асабіста я не буду супраць такой ініцыятывы.

**Ірына Тархан:** – У сваім двары хочам усталяваць для дзяцей комплекс з колаў. Плануем – гарадзішча колаў, думаем зрабіць элемент дзіцячай пляцоўкі. Ведаем, што іх вельмі шырока выкарыстоўваюць у Піцеры. З беларускіх гарадоў сустракалі ў Кобрыне.

> **З плюсаў – таннасць выкарыстання, альтэрнатыўны адпачынак дзецям, нешта новае ў двары. Менш забруджваюцца звалкі. Сярод мінусаў, хутчэй за ўсё, – выпарэнне ад гумы.**

Вынік – можна выкарыстоўваць, калі асцярожна. Вядома, вырашаць толькі вам.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# «Фестываль выглядае бедным сірацінцам»

## Удзельнікі фестывалю «Маладзечна-93» прыгадалі першае свята і параўналі з тым, у што яно ператварылася праз 26 год

**«Мы імкнёмся паказаць, што не ўсё ў нашым жыцці дрэнна. І нельга губляць веру ў лепшае: нацыянальную ідэю трэба даводзіць да людзей праз мастацтва. Не – нашаму бяспамяцтву, нашай непавазе да нацыянальнай годнасці».**




**Унікальны здымак, які ніколі не публікаваўся. Імя першага злева Віктар Шалкевіч не прыгадаў. Далей злева направа – барды Кастусь Герашчанка, Віктар Шалкевіч, Эдуард Акулін, Анатоль Кудласевіч і Андрэй Мельнікаў.**

Так выказваўся пра першы фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-93» тагачасны мэр Горада Сонца **Генадзь Карпенка**.

7-8 чэрвеня фестываль праводзяць ужо ў 26 раз. «РГ» папрасіла прыгадаць атмасферу самага першага свята яго ўдзельнікаў і параўнаць з тым, як фэст выглядае сёння.

### Уладзімір Някляеў: ад сапраўднага беларускага свята амаль нічога не засталося

Пра першы фестываль беларускай песні і паэзіі мы папрасілі прыгадаць яго ўдзельніка, паэта, грамадскага дзеяча, ураджэнца Смаргоншчыны **Уладзіміра Някляева**.

– Першы маладзечанскі фестываль беларускай песні і паэзіі помню, хоць 26 гадоў прамінула.

**Помню таму, што гэта было насамрэч беларускае свята, якое ладзілася на ўздыме нацыянальнага духу. Цяпер ад яго, на жаль, нічога не засталося, – дзеліцца Уладзімір Пракопавіч.**

Ну, амаль, нічога, дадае. Бо, на яго думку, праз высілкі **Міхаіла Фінберга** фестываль яшчэ крыху ліпее. Але выглядае ў параўнанні з пампезным, ад пачатку і дасюль безгустоўным, «Славянскім базарам», бедным сірацінцам.

– Зрэшты, інакш і не магло стацца ў краіне, у якой адносіны да свайго, як да чужога, а да чужога, як да свайго. Не сваё пяём, не сваё чытаем, не сваім жыццём жывём, – кажа паэт.

Апошні раз Уладзімір Някляеў быў на фестывалі ў 1996 годзе. Святкаваў там сваё 50-годдзе. Кажа, што тэлетрансляцыя яго аўтарскага канцэрта была апошняй жывой тэлетрансляцыяй з фестывалю:

– Я запрасіў на сцэну **Генадзя Карпенку**, з якім мы сябравалі і рыхтавалі першы фестываль, тагачаснага старшыню Вярхоўнага Савета **Сямёна Шарэцкага**, іншых палітыкаў, грамадскіх дзеячаў… Больш такога святочнага разгулу на ўсю краіну ўлады не маглі дазволіць – і з таго часу высокае полымя нацыянальнага фестывалю пачало затухаць.

Калі летась было 25 год фестывалю, Уладзімір Пракопавіч збіраўся прыехаць у Маладзечна на аўтарскі канцэрт **Ігара Лучанка**. «Прашу цябе, прыедзь. «Світанак» разам спяём. Там усе нашы будуць, табе будуць рады», – прасіў тады кампазітар.

– Я падумаў: «А чаму не?..» Але якраз у той дзень кампазітара **Эдуарда Зарыцкага**, з якім я напісаў сваю першую песню, хавалі, і паехаць у мяне не выйшла.

Сумнаватыя ўспаміны? Так, сумнаватыя. Але чамусьці веру я, што будзе яшчэ ў нашым Маладзечне такое, пра што потым весела ўспомніцца. Як успамінаецца ўсмешка маладзечанскага мэра Генадзя Карпенкі, які стварыў Горад Сонца. А сонца, як вядома, не заходзіць назаўжды. Толькі на ноч.

### Віктар Шалкевіч: на бардаў прыйшло больш людзей, чым на папсу

– Калі Саюз беларускіх пісьменнікаў быў адзін, не падзяліўся на «чэсных» і «нячэсных», там было так званае бюро прапаганды беларускай літаратуры. Загадвала ім пані Ядвіга Волкава – прыгожая энергічная жанчына, якая сабрала нас, бардаў, і выправіла ў Маладзечна, – прыгадвае бард, акцёр, паэт і шоумэн **Віктар Шалкевіч**. – Іду з гітарай, падыходжу да гасцініцы, а там сядзіць музыкант з аркестра Фінберга. Вырваў гітару і пачаў спяваць нейкія блатныя песні. Я кажу: «А чаго блатныя спяваеш?». А ён у адказ: «Да надоело белорусские песни играть».

Сцэна для бардаў была ўсталяваная ў парку. Для выступленняў паставілі даволі добрую нават па сённяшніх мерках музычную апаратуру. Па словах Віктара Шалкевіча, на канцэрт бардаў прыйшло вельмі шмат людзей.

– Калі мы прыйшлі потым на стадыён і параўноўвалі – папсу слухала значна меней людзей, – кажа Шалкевіч. – Мы маладыя былі, прыгожыя, з валасамі, з чупрынамі.

**Шмат хто толькі пачынаў свой творчы шлях. Тады ніхто нікога не баяўся. І амаль усе, хто тады выступаў, засталіся ў беларускай культуры.**

Людзі ў маладой краіне жылі надзеяй, што ўсё атрымаецца, што свята беларускай паэзіі і музыкі – першая ластаўка адраджэння беларускасці, кажа Шалкевіч. А Маладзечна ў яго ўспамінах заўсёды было «правільным» горадам. Людзі адчувалі паветра перамен, якія адбываюцца ў грамадстве.

Тое, як выглядае фестываль сёння, Віктара Шалкевіча не ўсцешвае.

– Па-мойму, яго нехта манапалізаваў, гэты фестываль, зрабіў такім… больш фармальным. Мне здаецца, нічога асабліва цікавага не робіцца. Але ж у нас талентаў няма, ці што? Ёсць, канешне! Проста шукаць трэба, займацца. Каб была ў грамадстве большая ўвага да таго, што робяць сучасныя беларускія паэты і кампазітары. Каб фестываль быў прэстыжным, прыярытэтным, як той «Славянскі базар». А так… Шараговая шэрасць.

### Андрэй Мельнікаў: аўтобус з рэчамі з'ехаў без нас

Бард і літаратар **Андрэй Мельнікаў** прызнаўся, што сам канцэрт аўтарскай песні памятае не вельмі добра. Затое памятае падзеі, якія адбываліся пасля яго.

– Вечарам таго дня ўпершыню пачуў, як добра з вялікай сцэны гучыць гурт «Новае Неба». Бо давялося некалькі гадзін правесці ў памяшканні, прыстасаваным пад грымёрку.

Бардаў пасля іх канцэрта павінны быў даставіць у Мінск адмысловы аўтобус. Да вызначанага часу сабраліся не ўсе. Мельнікаў пайшоў шукаць людзей, а бард **Алесь Камоцкі** паабяцаў, што падстрахуе, каб аўтобус не з'ехаў.

Але нешта пайшло не так.

**Калі Андрэй Мельнікаў і яшчэ тры чалавекі прыйшлі да стаянкі, аўтобуса (з рэчамі!) там ужо не было.**

– Такім чынам я пазнаёміўся з **Анатолем Кудласевічам** і **Міхасём Шавыркіным**. А яшчэ пабачыў з невядомага для сябе боку **Эдуарда Акуліна**. Ён успрыняў у поўным сэнсе экстрэмальную, непрыемную сітуацыю абсалютна спакойна і нават з іроніяй, як прыгоду. Я чуў пра тое, што менавіта яго гумар такі, іронія прывялі ў аўтарскую песню ў свой час **Сержука Сокалава-Воюша**: ён пабачыў, як гэты малады хлопец спявае, і зразумеў, што свае вершы ён таксама можа спяваць. І гэты эпізод у тую ноч у Маладзечне, калі я бачыў Акуліна менавіта такім, як пра яго распавядаў Сокалаў-Воюш.

…Ноч была цёплая, і да першай электрычкі на Мінск барды бадзяліся па маладзечанскіх вуліцах. Такім запомніў фестываль «Маладзечна-93» Андрэй Мельнікаў.

**Падрыхтавалі Аксана ЯРАШОНАК і Ігар ПАЛЫНСКІ.**



Апошні званок даюць лепшыя спартсмены – Аляксей Шчарбанюк і Дар'я Нікіткова.



Першакласнікі віншуюць выпускнікоў.



Ад імя выпускнікоў выступае Сафія Канапелька.

# Выпускаем разумнікаў і лепшых спартсменаў

## Як прайшла лінейка ў сярэдняй школе №3

ВІЛЕЙКА

**30 мая 11 «А» і 11 «Б» класы былі галоўнымі героямі на святочнай лінейцы ў сярэдняй школе №3 у Вілейцы. Тут апошні раз званок празвінеў для 32 выпускнікоў.**

– За плячыма 11 год школьнага жыцця, шмат радасных і яркіх момантаў. Думаю, ніхто не будзе спрачацца з гэтым. Упэўнены, што ў кожнага з вас застануцца толькі добрыя ўспаміны пра школу, – адзначыў дырэктар школы **Мікалай Гіро**, як заўжды па-беларуску.

Як расказала карэспандэнту намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце **Алена Семянковіч**, сёлетнія выпускнікі цешылі педагогаў сваімі перамогамі.

Па выніках рэспубліканскіх спаборніцтваў спартсмены з трэцяй школы сталі лепшымі ў Беларусі. Гэта **Дар'я Нікіткова**, **Лаліта Харлап**, **Аляксей Шчарбанюк**.

А **Вікторыя Каросцік**, вучаніца **Алены Церах**, стала лепшай на Міншчыне ў абласным этапе алімпіяды па беларускай мове і ўдзельнічала ў рэспубліканскім. Па словах Алены Семянковіч, Вікторыя не першы год удзельнічала ў алімпіядах па беларускай мове і не раз перамагала на Міншчыне і ў рэспубліцы. Такі тандэм, на думку намесніка дырэктара, склаўся дзякуючы таленту і старанню вучаніцы і педагога.

> **– Дзеці былі цікавыя, ініцыятыўныя. Усе святы, якія арганізоўвалі выпускнікі, былі вельмі неардынарнымі.**

У двух класах на павышаным узроўні вывучалі фізіку, хімію, біялогію, матэматыку, гісторыю Беларусі, англійскую мову. Па гэтых прадметах дзеці маюць моцныя веды. Таму спадзяёмся, нашы выпускнікі парадуюць нас вынікамі цэнтралізаванага тэставання, – падсумавала намеснік дырэктара.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

### Колькі выпускнікоў і прэтэндэнтаў на медалі ў рэгіёне

| Раён | Выпускнікі | Прэтэндэнты на медалі |
|---|---|---|
| Маладзечна | 752 | 103 |
| Вілейка | 234 | 18 |
| Мядзел | 190 | 6 |
| Валожын | 200 | 17 |
| Смаргонь | 263 | 31 |
| Ашмяны | 173 | 40 |
| Астравец | 167 | 10 |



# Дзённік мамы другакласніцы: рубрыка ідзе на канікулы разам з Варварай

**У школах адзвінеў апошні званок. А гэта значыць, на нашых старонках – апошні дзённік мамы другакласніцы. І на ўсё лета рубрыка разам з Варварай выпраўляецца на канікулы, каб з'явіцца ад верасня дзённікам мамы трэцякласніцы.**

Апошнія майскія дні адзначыліся яркімі школьнымі падзеямі. У актавай зале школы зладзілі справаздачны канцэрт. Вучні паказвалі бацькам і настаўнікам, чаму яны навучыліся за год.

> **Варын танцавальны калектыў «Фісташкі» танцаваў усёй сваёй вялікай кампаніяй. А старэйшая Юля танцавала меншай кампаніяй, але два танцы.**

На традыцыйнае агульнашкольнае мерапрыемства «Мазаіка поспеху», дзе ўганароўваюць тых, хто адзначыўся на рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах, наш 2 «Б» таксама запрасілі. За тое, што танцоры занялі трэцяе месца на адным з міжнародных конкурсаў у Мінску, уручылі дыплом і сертыфікат на ўвесь калектыў на паход у забаўляльны цэнтр.

Старэйшая сястрычка адзначылася крыху больш. Яе ўзнагародзілі і ў складзе танцавальнага калектыву, і асобна – за перамогу ў паэтычным конкурсе і ўдзел у прадметным. Але ж у Вары, будзем спадзявацца, яшчэ ўсё наперадзе.

На апошняй класнай гадзіне настаўніца ўсіх адзначыла прыемнымі яркімі дыпломчыкамі. Варвара асаблівa ганарыцца тым, што яны са сваёй сяброўкай Дашай атрымалі дыпломы як лепшыя чытачы.

> **Спіс кніг на лета далі багаты. Праўда, тое-сёе з яго мы ўжо прачыталі. У бліжэйшы час плануем паход у бібліятэку.**

А ўвогуле, на лета пакуль ніякіх акрэсленых планаў, акрамя як чытаць, іграць на дудцы, гуляць і атрымліваць асалоду ад летняга сонейка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



На конкурсе, за які танцораў узнагародзілі паходам у забаўляльны цэнтр.

# Смаргонка згуляе на чэмпіянаце Еўропы па баскетболе

СМАРГОНЬ

**Юлія Рыцікава, якая выступае за нацыянальную зборную Беларусі па баскетболе і польскі «Гожаў», родам са Смаргоні.**

У яе спартыўная сям'я – бацька працуе трэнерам па баскетболе, а мама настаўнікам па фізічным выхаванні.

> «Кожны раз тата забіраў мяне з садка з мячом у залу. Баскетбол – гэта было прадвызначана».

**– Як цяпер справы са смаргонскім баскетболам?**

– Тата дагэтуль працуе. Вядома ж, цяпер складаней: стагоддзе інавацый, інтэрнэту, камп'ютарных гульняў, – цяжэй завабіць дзяцей. Бацькі баяцца адпускаць іх у спорт.

У 2005 годзе Рыцікава дэбютавала за нацыянальную зборную. Выступала за расійскія, польскія і беларускія клубы. У 2017 годзе пасля трох гадоў у беларускім чэмпіянаце яна вярнулася ў польскі «Гожаў».

**– Ты доўга абдумвала вяртанне ў «Гожаў»?**

– Не. Патэлефанаваў трэнер Дарыуш Мацееўскі, у канцы размовы сказаў: «Убачымся». Спытала: «Дзе? У Гожаве?». А ён: «А ты што, хочаш прыехаць?». Я адказала яму, што не супраць, а ён кажа, каб прыязджала. Мы працавалі з Мацееўскім раней, таму ён быў рады бачыць мяне ў камандзе.

**– Як паўплываў «Гожаў» на тваю прафесійную кар'еру?**

– У моцным чэмпіянаце заўсёды ёсць канкурэнцыя, а таму ты ў любым выпадку расцеш у фізічным і ў маральным плане. Зразумела, гэта складаная праца, але разам з моцным чэмпіянатам становішся лепшым і ты.

**– З гэтага сезона разам з табой у «Гожаве» гуляе яшчэ адна беларуска – Марыя Папова. Яна з табой раілася з нагоды пераходу?**

– Так, Мацееўскі хацеў яе бачыць раней. Турэцкі клуб не адпускаў Машу, хоць яна сама была і не супраць. Яна цікавілася і даведвалася, што такое польскі чэмпіянат. Нарэшце, Маша дала згоду ў мінулым маі.

**– У гэтым сезоне «Гожаў» выйшаў з групы Еўракубка, але ў плэй-оф адразу ж прайграў «Ліёну». Як гэта здарылася?**

– «Ліён» быў вельмі моцнай камандай. Трэнеры французскага клуба былі больш дасведчаныя, чым нашы, а нас – гульцоў – проста дзесьці не хапіла.

**– Чаму ў сакавіку «Гожаў» прайграў пяць матчаў запар у чэмпіянаце Польшчы?**

– Трэнер казаў, што гэта ў нас такі тактычны ход. Адбыўся спад, не было ўзаемаразумення і каманднай гульні. Кожны цягнуў коўдру на сябе. Бліжэй да фінальных гульняў змаглі сабрацца. А там ужо вырашылі, што калі застаёмся тут і дадому не выязджаем, то трэба біцца да канца. Мы ж выйгралі срэбраныя медалі, выходзячы з сёмага месца «рэгуляркі».

**– Ты прапусціла некалькі гульняў з-за траўмы?**

– Усё пачалося з рэгулярнага чэмпіянату ў гульні з «Пальковіце». Мяне ўдарылі ў нагу, дакладней, па іканожнай мышцы. Перапынку на аднаўленне не было, даводзілася трэніравацца і гуляць з пашкоджаннем. Станавілася ўсё горш. Пасля некалькіх матчаў я проста не магла стаць на тую нагу. Мне далі паўзу, паставілі на мыліцы, каб зняла нагрузку з мышцы. Я выйшла ўжо ў трэцім паўфінальным матчы з «Вроцлавам». Выйшла на пляцоўку зусім без трэніровак. Адразу – у гульню!




Юлія Рыцікава на трэніроўцы зборнай Беларусі.

Фота vk.com/ belarusbasket.

**– Ты задаволеная сезонам і срэбрам польскага чэмпіянату?**

– У апошні раз «Гожаў» браў медалі, калі я была ў камандзе першы раз – у 2010-м. Цяпер гэта быў такі фурор для самога горада! Задаволеная, вядома.

**– У наступным сезоне ты застаешся ў Польшчы?**

– Нічога пра гэта не думала. Я прыехала дадому, трэба атрымаць асалоду ад дома, вярнуцца ў сямейнае рэчышча.

**– У цябе ёсць сын. На працягу баскетбольнага сезона ты часта бачышся з ім?**

– У мужа быў адпачынак, яны разам прыязджалі ў пачатку сезона. А потым я прыязджала ў лістападзе, калі зборная гуляла кваліфікацыю да Еўрабаскета, і яшчэ ў снежні былі двухтыднёвы перапынак на святы. У пачатку сакавіка муж з сынам зноў прыехалі на некалькі тыдняў. Так вось і жывём перабежкамі. Менавіта таму няма ніякіх думак па клубе. Цяпер галоўнае – дом і сям'я.

### Пяты чэмпіянат Еўропы

27 чэрвеня нацыянальная зборная Беларусі выступіць на чэмпіянаце Еўропы. Для Юліі Рыцікавай ён стане пятым у прафесійнай кар'еры. Беларускі пачнуць выступленне з групы D супраць Расіі, Сербіі і Бельгіі.

**– Што ты падумала, калі першы раз убачыла сапернікаў па групе?**

– Нам будзе цяжка, але шанец заўсёды ёсць. У любым выпадку з кожным годам каманды і гульцы мяняюцца, а зборная Беларусі застаецца! Мячык круглы, і пакуль ён у гульні – гульня не скончаная.

**– На твой погляд, з якой зборнай будзе складаней за ўсё гуляць?**

– Найбольш складана будзе з бельгійкамі, таму што яны цяпер знаходзяцца на ўздыме. На чэмпіянаце свету гэтай восенню яны вельмі добра глядзеліся. Сербкі? Вядома, з гаспадынямі заўсёды цяжка гуляць, але па ўзроўні і складу Бельгія мацнейшая.

**– Раіса Мусіна са зборнай Расіі сказала, што беларуская каманда ў апошнія гады зусім непрыкметная. Што думаеш пра гэта?**

– Пытанне: а хто такая Мусіна? Дзе ўвогуле Расія, калі яна так гаворыць пра беларускую зборную, што нас нідзе не было відаць. А расійскую зборную было бачна? Неяк яна не зусім валодае інфармацыяй.

**– Калі беларускі ўвойдуць у шасцёрку лепшых камандаў чэмпіянату Еўропы, то змогуць згуляць у алімпійскай кваліфікацыі. Гэта выканальная задача?**

– Многія з дзяўчат хочуць гэтага, таму што для ўзроставых гульцоў гэта апошні шанец трапіць на Алімпіяду. Скажу так: мы будзем выкладвацца.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94
@gmail.com
(8-0176)
53-78-06

## Футбол. Чысць і Ашмяны – з перамогай, у Маладзечне параза ад Пінска

**У другой лізе прайшлі гульні сёмага тура. Для Чысці і Ашмянаў футбольныя выхадныя завяршыліся перамогай, а футбалісты Маладзечна атрымалі паразу на апошніх хвілінах гульні.**

### Яшчэ адна перамога для Чысці

1 чэрвеня Чысць гуляла выязны матч у Стоўбцах з «Нёман-Агра». Чысцінскі «Андэрдог» атрымаў перамогу – 2:0. Лік у гульні адкрыў **Чыжэўскі** на 23-й хвіліне, яму асэст. Вынік замацаваў **Мікіта Мятліцкі**, які рэалізаваў пенальці ў другім тайме. Чысць знаходзіцца на чацвертым месцы турнірнай табліцы.

### Маладзечна пачынае лета з паразы

Маладзечна правяло дамашнюю сустрэчу з пінскім «ДЮСШ-3-Стэнлес». На жаль, маладзечанцы не змаглі перамагчы ў гульні. На 82-й хвіліне футбаліст гасцей **Віталі Рушніцкі** забіў адзіны гол у матчы. Гэта другая параза для Маладзечна ў сезоне. Каманда займае трэці радок.

### Ашмяны разграмілі «Вікторыю»

У сёмым туры Ашмяны разграмілі сапернікаў з ФК «Вікторыя» (Мар'іна Горка) – 5:0. **Аляксандр Кучынскі** аформіў першы гол у сустрэчы. **Аляксей Нікулін** папоўніў рады бамбардзіраў у гульні, ён забіў два мячы за чатыры хвіліны. **Аляксей Скварчэўскі** забіў трэці гол, а лепшы бамбардзір другой лігі – **Януш Ладуцька** – рэалізаваў апошні гол матча. «Ашмяны-БДУФК» атрымліваюць тры ачкі і займаюць другое месца ў турнірнай табліцы.

### Суботнія матчы

8 чэрвеня ў 16:00 – маладзечанскае дэрбі: «Андэрдог» (Чысць) прымае ФК «Маладзечна». У 16:00 «Ашмяны» праводзяць дамашнюю гульню з «Нёман-Агра». «Смаргонь» 8 чэрвеня чакае выезд у Гомель да «Лакаматыва».

**Аддзел інфармацыі.**

# Крыжаванка
## ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Сталіца Філіпін – горад з найбольшай шчыльнасцю насельніцтва ў свеце.
3. Прозвішча мужа Паўліны Мядзёлкі Тамаша.
4. Які мае афарбоўку аднаго з асноўных колераў спектра, што ідзе перад аранжавым.
5. Вайсковая група, падраздзяленне, якім даручаецца збор звестак аб праціўніку.
6. Творчы працэс з выкарыстаннем пластыліну.
8. Асоба як вырашэнне высокіх маральных і інтэлектуальных рыс, духоўных якасцяў.
9. У адным з індыйскіх штатаў нельга размяшчаць бар бліжэй за 500 метраў ад дзяржаўных трас. Фармальна адзін хітры гаспадар бара правіла вытрымаў. Ён загадаў ператварыць дарогу да бара ў …
12. Вышэйшая ступень пазнавальнай дзейнасці чалавека, здольнасць лагічна мысліць, асэнсоўваць навакольную рэчаіснасць.
14. Станоўчы.
17. Гэты мыс на поўдні архіпелага Вогненная Зямля лічыцца адным з найскладанейшых для мараходаў. Пасля першага ўдачнага яго праходу марак меў права насіць у вуху медную завушніцу, пасля другога – сярэбраную, пасля трэцяга – залатую.
18. Трапны лаканічны выраз павучальнага характару.
20. Краіна, якая гістарычна належыць пэўнаму народу і якую гэты народ насяляе.
23. Апошняя паэма Уладзіміра Жылкі, якую захавалі з вялікімі цяжкасцямі.
24. Горад, у якім нарадзіўся стваральнік мовы эсперанта Людвіг Заменгоф.
25. Уважлівы, спагадлівы; добразычлівы.
26. Тэкст, напісаны ад рукі, а таксама аддрукаваны на пішучай машынцы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Пара самага высокага развіцця, самага моцнага праяўлення чаго-небудзь, момант найвышэйшага напружання.
4. Покрыўка з тканіны ці іншага матэрыялу, зробленая па форме якога-небудзь прадмета для захавання яго ад псавання, забруджвання.
7. Гульня, удзельнікі якой закрываюць фішкамі названыя нумары або малюнкі на асобых картах.
10. Дзелавая папера, якая служыць доказам ці пацвярджае правы.
11. Па-грэчаску гэта слова азначае «адзінокі».
13. Самае каштоўнае ў адносінах паміж людзьмі.
15. Воін, салдат легіёна.
16. Першы месяц восені.
19. Жывёліна атрада паўзуноў з касцявым панцырам, якая вельмі павольна рухаецца на кароткіх лапах, што разам з хвастом і галавой могуць уцягвацца ў панцыр.
21. Вялікая маса снегу, лёду, які падае з гор; снежны абвал.
22. Работнік, які рэгулюе рух транспарту або ход работы прадпрыемства з аднаго цэнтральнага пункта.

## Адказы на крыжаванку з №22

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Галоп. 3. Дубоўка. 4. Самалёт. 6. Газон. 7. Сувей. 10. Арытмія. 11. Перу. 13. Гімнастыка. 15. Шакіра. 17. Ахвяра. 18. Сажа. 22. Стыль.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Гол. 5. Чорны. 7. Салон. 8. Галактыка. 9. Паветра. 12. Ашыйнік. 13. Глузд. 14. Зямлю. 16. Тэсла. 19. Грэцыя. 20. Агент. 21. Астанкі.

## ● ГАРАСКОП 7-13 ЧЭРВЕНЯ

**АВЕН.** Не перажывайце па дробязях. Жывіце спакойным жыццём, радуйцеся падзеям, што адбываюцца вакол вас, і не задумвайцеся наперад.



**ЦЯЛЕЦ.** Вас могуць ахапіць яркія пачуцці, вам захочацца стварыць сям'ю або пачаць нейкую новую справу – ці ў асабістым жыцці, ці бізнесе. Але не страцьце кантроль над сваімі жаданнямі і думкамі. Адзіны спосаб трымаць сябе ў рамках дазволенага – кожны раз глядзець на сябе з боку.



**БЛІЗНЯТЫ.** Не імкніцеся нешта планаваць, асабліва ў рамантычнай сферы. Дазвольце пачуццям і эмоцыям весці вас, адключыце розум, і атрыманы вынік перасягне ўсе вашы чаканні.



**РАК.** Пажывіце ў гармоніі з сабой і навакольным светам. Дазвольце сабе нічога не рабіць. Самае неабходнае складзецца належным чынам і без вашага ўдзелу.



**ЛЕЎ.** Дазвольце сабе радавацца жыццю, але не забывайце падумаць аб кожным кроку наперад, не аддавайцеся цалкам на волю пачуццяў, інакш вы рызыкуеце атрымаць сур'ёзнае расчараванне.



**ДЗЕВА.** Усе дні будуць прысвечаныя толькі пытанням зараблення грошай. Гэта можа прывесці да таго, што вы не будзеце заўважаць у жыцці нічога, акрамя вашай работы. Не станьце рабом матэрыяльнага свету.



**ШАЛІ.** Клапаціцеся пра сваё здароўе і ведайце, што менавіта стрэсы і страта душэўнай гармоніі прыводзяць да зніжэння імунітэту і ствараюць умовы для развіцця як вострых, так і хранічных захворванняў. А вірусы і генетыка – гэта ўсяго толькі выканаўцы падрыўной работы, і яны бяссільныя, калі псіхіка знаходзіцца ў раўнавазе.



**СКАРПІЁН.** Ва ўсім спадзявайцеся не на лёс, а на самога сябе. Усё ў вашых руках. І калі прыкласці намаганне над сабой, не кідаць пачатае на паўдарозе, то вы зможаце дасягнуць добрых вынікаў і будзеце на вышыні.



**СТРАЛЕЦ.** Вы яшчэ доўга будзеце адчуваць сябе на кані. Час спрыяльны для тых, хто запланаваў прарыў у справах, каб адным махам усё вырашыць. Калі спатрэбіцца зрабіць які выбар, то кіруйцеся падказкамі сэрца.



**КАЗЯРОГ.** Эмоцыі, якія захліснулі вас у апошнія дні, павінны знайсці больш мірнае рэчышча, супакоіцца і ўраўнаважыцца. Дні будуць прысвечаныя менавіта такім падзеям, якія дазволяць вам утаймаваць сваю эмацыйнасць, а таксама лепш зразумець самога сябе.



**ВАДАЛЕЙ.** Ад вас спатрэбіцца кемлівасць, але не лёгкая і гарэзная, а ўдумлівая і глыбокая. Праявіце ўважлівасць і ўседлівасць, не выпускайце з-пад увагі дробязі, думайце даволі шырока і глыбока. Гэта дасць вам магчымасць не ўпусціць удалы момант.



**РЫБЫ.** Цяпер вы будзеце трохі нервовымі, агрэсіўнымі і можаце нават пачаць накідвацца на людзей, але гэта ў хуткім часе пройдзе, і калі вы не пасварыцеся ні з кім грунтоўна, то без якіх-небудзь наступстваў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 8 | 1 | | | | | | 9 |
| | 5 | | | 1 | | 2 | | 6 |
| | | | | | 7 | | | |
| 2 | | | | | 5 | 1 | | 4 |
| | 3 | | 9 | | | 6 | | |
| 9 | | | | | 4 | 3 | | 5 |
| 5 | 2 | 3 | | 4 | | | | |
| 8 | | | | 9 | | | 1 | |
| | | | | 3 | | | 8 | 2 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## Чытайце праз тыдзень

- У Ашмянах ёсць прыклад, калі гісторыя старога будынка не заканчваецца, а атрымлівае новы пачатак. Супрацоўнікі мясцовага краязнаўчага музея спрабуюць даць новае жыццё закінутаму будынку сінагогі.

## 8 чэрвеня, субота

**Вецер:** паўднёвы, 4-5 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература +3,6°C у 1982 годзе
Максімальная тэмпература +31°C у 1999 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,1 мм у 1989 годзе

Паводле meteoinfo.by.



## Кроч у лета з «Рэгіянальнай газетай»!



## Ідзе падпіска на другое паўгоддзе

### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 50 капеек;
- на тры месяцы – 13 рублёў 50 капеек;
- на паўгоддзе – 27 рублёў.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;
- на тры месяцы – 40 рублёў 50 капеек;
- на паўгоддзе – 81 рубель.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

### ПТУШКА НА ХВАСЦЕ ПРЫНЕСЛА

Маршрутка Мінск-Капыль. Пытаюся ў кіроўцы, што цікавага можна паглядзець у горадзе, першы раз еду.

– Ну ты і адчаяная, на выхадныя ў Капыль ехаць! Сядзі і цэлую дарогу прадстаўляй сабе, што едзеш у Магадан. Добра так прадстаўляй, качэственна. Тады як выйдзеш у Капылі, то табе прам панравіцца.

## У Ленкаўшчыне правялі свята паэзіі

МАЛАДЗЕЧНА

**По ініцыятыве краязнаўцы Міхася Казлоўскага ў Ленкаўшчыне на Маладзечаншчыне зладзілі свята паэзіі, прысвечанае памяці паэта, мастака і педагога Юльяна Сергіевіча (1910-1976).**

На пляцоўцы каля хаты, дзе жыў паэт, сабраліся мясцовыя і людзі з бліжэйшых вёсак, старшыня Маркаўскага сельсавета **Іван Мацэвіч**, вучні і настаўнікі Маркаўскай школы, прадстаўнікі ветэранскай арганізацыі, літаратары з Мінска і Маладзечна, удзельнікі мясцовых музычных калектываў.

Адкрыла імпрэзу паэтка **Ала Клемянок**. Міхась Казлоўскі нагадаў прысутным пра Юльяна Сергіевіча – прагрэсіўнага заходнебеларускага паэта і мастака, мемуарыста.

> Летась намаганнямі Міхася Казлоўскага выйшла кніга Юльяна Сергіевіча «За волю родных хат».

Вершы паэта прачыталі вучні Маркаўскай школы **Ангеліна Вятлова**, **Дзмітры Чарняўскі**, **Ганна Аўдзевіч**, **Вікторыя Бажко**.

Ураджэнец Валожыншчыны паэт **Віктар Шніп** чытаў свае балады, прысвечаныя нашым землякам: **Генадзю Каханоўскаму**, **Тацццяне Сапач**, **Рыгору Семашкевічу**.

Паэтка з Маладзечна **Тамара Бярэзіна** прыгадала, што Юльян Сергіевіч сябраваў з яе дзедам, паэтам і перакладчыкам **Пятром Бітэлем**.

Многія са сталых людзей, што прысутнічалі на свяце, добра памятаюць паэта. Аўтар гэтых радкоў таксама неадназова сустракаўся з Юльянам Сергіевічам, слухаў вершы ў выкананні аўтара.



Партрэт Юльяна Сергіевіча аўтарства Аляксандра Грышкевіча.

**Мікалай КОТ,**
**вёска Трапалава.**

### ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якіх выканаўцаў вы хацелі б пабачыць на фестывалі беларускай песні і паэзіі?



**Георгі Сяроўскі, кіроўца:**
– Мне больш падабаюцца дыджэі. Лепш паслухаць прагрэсіў хаўс, электронную музыку. А з беларускіх выканаўцаў я нават і не ведаю, усе цяпер нейкія найграныя. Толькі электроніка!



**Яна Троцкая, гаспадыня:**
– У апошні час я не слухаю музыку, глядзім з дачкой мульцікі. На фэсце хацела б паслухаць Саладуху ці Калдуна.



**Вячаслаў Ціхановіч, будаўнік:**
– Гэта шырокі спіс! Беларускія музыкі і гурты: Brutto, «Крама», Neuro Dubel. Вельмі хацелася б пачуць беларускі рок на фэсце, а менавіта калі-небудзь з іх! А з замежных выберу AC/DC, Metallica, Джо Сатрыяні, Deep Purple.



**Аляксандра Матуевічутэ, студэнтка:**
– З захапленнем схадзіла б на Макса Каржа ці Ціму Беларускіх.



**Таццяна Астрамовіч, студэнтка:**
– Не слухаю такую музыку, як Ляпіс Трубяцкой. На музычным фэсце паслухала б Элджэя, ці якіх-небудзь беларускіх рэпераў.



**Антон Жыгульскі, вайсковец:**
– Гэта фэст беларускай народнай песні, таму хацелася б паслухаць этнічных выканаўцаў – «Вурай», «Стары Ольса». У прынцыпе NaviBand такі сучасны гурт. Было б цікава пайсці туды, куды народ сам пацягнецца, а не з-пад палкі.



**Аксана Нарцэвіч, мерчандайзер:**
– Хацелася б пайсці на менавіта нашых спевакоў. Напрыклад, Аляксандра Саладуху. А калі замежныя – Святлану Лабаду.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№23 (1258) 7.06.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 866. Падпісана ў друк у 9.00 6.06.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.